# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ
Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
*The Voice of the Church,* Published by the Council of the
Byelorussian Autocephalous Orthodox Church
401 Atlantic Ave., Brooklyn, New York, N.Y. 11217, U.S.A. Price $3.00

**No.61** **КАЛЯДЫ — 1988/1989** **Год 33**

ЮБІЛЕЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ
у чэсьць 1000-годняга Юбілею Праваслаўнага Хрысьціянства
ў Беларусі
988-1988

***Пачэснаму Сьвятарству, прэпадобнаму Манаству
і ўсім Вернікам
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
ў Вольным сьвеце і на Бацькаўшчыне.***

*Дарагія Браты й Сёстры ў Хрысьце!*

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

Недасяжнае нават розуму ангелаў прышэсьце Божае спадобіліся мы бачыць у гэтыя сьвятыя й збаўляючыя дні. Зыйшоў да нас на зямлю Адзінароднцы Сын Божы — Вечнае Слова, Які стварыў і ўтрымоўвае ў быцьці ўсё бачнае й нябачнае, — зыйшоў і ўспрыняў на Сябе нашу тленную прыроду, прыйшоў у целе і стаў чалавекам, зрабіўся ўва ўсім, акрамя грэху, падобным да людзей.

Што асабліва радасна й пацяшальна для нас у гэтым здарэньні? Тое, што ў прыродзе паўшага чалавека адбылося ўзнаўленьне. Прыйшоўшы ў целе Сын Божы зрабіў ўсё, што трэба, дзеля гэтага нашага ўзнаўленьня: прасьвяціў нас, седзячых у цемры й цяні сьмяротным,

сьвятлом праўды й богапазнаньня, і паказаў шлях да жыцьця вечнага, успрыняў на сябе грахі нашыя й загладзіў іх сваімі мукамі й крыжоваю сьмерцю, зыйшоў у магілу й разагнаў для нас цемру магільную й страх сьмерці, зыйшоў у пекла й вывеў палоньнікаў яго на свабоду, уваскрос із мёртвых і паклаў пачатак нашаму ўваскрасеньню, узьнёсся на неба і адчыніў нам уваход у царства Божае, у сьветлыя мясьціны ў Доме Айца Нябеснага, паслаў нам Духа Сьвятога й з Ім усю паўнату дароў ласкі Божае, — так, ачысьціўшыся ад усякае брыдоты, зробімся здольнымі да сужыцьця з сьвятымі ангеламі на небе. Вось якое бясконцае заспакаеньне прынёс чалавецтву прыход Бога ў целе.

Ці адчуваем мы гэты духоўны плод хрысьціянскага сьвяткаваньня Нараджэньня Хрыстовага, гэту сьвятую радасьць у Госпадзе, якая ёсьць несумненным залогам вечнай радасьці з Госпадам на Небе?

Збаўленьне нашае складаецца заднаўленьня ў нашай душы вобраза Божага, у адзяваньні ў новага чалавека, створанага падобным да Бога. Ці абнавіўся ўвесь вобраз жыцьця й паводзінаў нашых так, каб учынкі нашыя сьведчылі аб тым, што мы дзеці Божыя? Праходзяць дні за днямі беспаваротна, — а мы й ня думаем ужыць іх на набыцьцё блажэннае вечнасьці.

Сын Божы зрабіўся сынам чалавечым дзеля таго, каб выбавіць гінучага чалавека. Бо Сын Чалавечы прыйшоў спасаць гінучага (Лк.9,56).

Вітаю ўсіх Вас, Дарагія, з вялікім нашым хрысьціянскім сьвятам — Нараджэньнем Хрыстовым. Няхай радасьць Вашая будзе поўная, бо з неба зыйшоў наш Збаўца, панізіў Сябе, прыняўшы цела чалавечае, каб нас з цемры й няволі грэху вывесьці на свабожу і ўзвесьці на неба ў Царства Сваё Божае, да жыцьця вечнага з ангеламі і ўсімі нябеснымі сіламі.

Што патрабуецца ад нас, каб мы сталі дастойнымі дароў Ласкі Ягонае? Мы павінны нязьменна й стойка вызнаваць Яго, як нашага Бога, Збаўцу і Выкупіцеля, Які ня толькі навучаў нас як верыць, але Сваім жыцьцём, ды пакутамі паказаў на справе шлях, якім усе мы павінны йсьці у гэтым жыцьці, каб стаць дастойнымі жыцьця вечнага ў Царстве Божым на небе.

Наша жыцьцё тут павінна вызначацца багабойнасьцю і шчырай любоўю да Бога і да бліжніх нашых. Мы павінны памятаць нашых Родзічаў у паняволенай Бацькаўшчыне і ўзносіць малітвы нашыя да Бога за іх хуткае вызваленьне, каб і яны маглі там свабодна сьвяткаваць і славіць Бога ў сваіх Цэрквах і небаяцца гаварыць сваёй роднай Беларускай мовай.

Ласка й мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога і Айца, і



прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі. Амін.

*Дадзена лета Божага 1988, месяца Сьнежаня*
*Бруклік, Нью Ёрк, З.Ш.А.*

*† Мітрапаліт Ізяслаў,*
*Першагерарх Б.А.П.Ц.*

---

# АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ ВЫСОКАПРЭАСЬВЯШЧЭННАГА ІЗЯСЛАВА МІТРАПАЛІТА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ *Ў ГОНАР ТЫСЯЧАГОДНЯГА ЮБІЛЕЮ ПРАВАСЛАЎЯ Ў БЕЛАРУСІ*

Дарагія і ўлюбёныя Браты і Сёстры ў Хрысьце!

На парозе Другога Тысячагодзьдзя Праваслаўнага Хрысьціянства на землях нашае Бацькаўшчыны Беларусі, мы нятолькі ўдзячныя Ўсявышняму за Ісуса Хрыста і Ягоную Навуку, але і за тое, што Міласьцівы Бог даў нам магчымасьць і сілы жыць паводле Яе далёка ад роднага Краю, роўна як і за апеку над намі, ды за свабоду, дзякуючы якой мы маем магчымасьць разьвіваць нашы спрадвечныя традыцыі і звычаі, якіх сяньня на родных землях захоўваць нельга.

Маючы перад вачыма сьветлы прыклад шматлікіх нашых мучанікаў і ўсіх сьвятых, што правялі сваё жыцьцё ў змаганьні за Хрыстовую Веру, ды за волю і справядлівасьць для нашага шматпакутнага Народу, мы павінны ўзяць на сябе забавязаньне перадаць усе нашыя духоўныя вартасьці і рэлігійныя традыцыі нязьмененымі нашым дзецям і ўнукам. Каб канкрэтна выканаць гэта забавязаньне, нам трэба пачаць ад адраджэньня тых традыцыяў у кожнага з нас асабіста і ў нашых сем'ях, ад выхаваньня моладзі ў духу Хрыстовае Навукі і маралі, ад узмацненьня нашае Сьвятое Царквы праз павышэньне духоўнае асьветы і якасьці асабістага прыкладу.

Мы павінны стварыць ланцуг дзеяньня дабра паміж намі і ў шырэйшым абсягу. Нам трэба запачаткаваць пры нашай Мітраполіі фонд рэстытуцыі нашых духоўных і культурных здабыткаў, якія былі зьнішчаныя, ці пашкоджаныя, на Бацькаўшчыне. Ахвяры на гэты фонд будуць складаць усе нашыя прыяцелі і ўсе мы, што рупімся пра будучыню свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і свайго Народу. Гэты фонд будзе фінансаваць выдаваньне важных дакумэнтаў і кніг, ды памагаць стыпэндыямі нашым кандыдатам у сьвяшчэнства.

У гэты час вялікага Тысячагодняга Юбілею пачаткаў Хросту Беларусі ў Праваслаўную Веру мы ня крыўдуем на тых, хто ўсё яшчэ

не ў адной сям'і з намі, а заклікаем іх да пазытыўнае працы разам з усімі дзеля рэалізацыі нашага фонду з мэтай абнаўленьня і паглыбленьня беларускае рэлігійнае і культурнае дзейнасьці на эміграцыі. Гэта будзе наш навечны ўклад у скарбніцу нашае гісторыі, дзе ўжо запісалася нямала нашых продкаў, якіх мы высока шануем за іх ахвярнасьць і адданасьць Трыадзінаму Богу, у імя Якога яны прынялі сьвятое Хрышчэньне.

Нашай дзейнасьцяй мы павінны паказаць сваю поўную адданасьць Хрысту, з Якім мы цесна спалучаемся ў сьвятым таінстве Прычасьця, у малітвах нашых і думках. Таму часьцей чытайма Сьвятое Пісьмо, каб бліжэй пазнаць нам нашага Тварца і Збаўцу. У нашых шчырых малітвах папросім Міласьцівага, каб Духам Сваім Сьвятым накіроўваў усіх нас на шлях дабрачыннасьці, любові і праўды.

Сьвятая Праваслаўная Царква гэта найдаражэйшая наша спадчына. Яе нам трэба цаніць вышэй за ўсё іншае ў нашым жыцьці. Без Яе мы ня можам быць вольнымі, так як бяз веры ў Трыадзінага Бога мы апынімся ў вонкавай цемры... Наш Народ цалкам прыняў хрысьціянскія ідэады: пашана да старшых векам, спачуваньне, міласэрнасьць да патрабуючых і хворых, або пакрыўджаных, сямейная вернасьць, працавітасьць і міралюбнасьць — належаць да тых хрысьціянскіх ідэалаў, якія заўсёды практыкаваліся, ды якія нажаль нялёгка прапагаваць у цяперашнім сьвеце.

Маючы за сабою 1000 год хрысьціянскае гісторыі, ды шматлікія прыклады рэлігійнае дзейнасьці і самаадданых выдатных учынкаў нашых мучанікаў за Веру Хрыстовую, а таксама годныя перайманьня жыцьці іншых сьвятых, што ўславіліся сваёй пропаведзьдзю, запалам і пабожнасьцяй далёка за межамі нашае Бацькаўшчыны, мы павінны браць з іх прыклад і паказаць сваёй стараннасьцяй, што рупімся пра сваю Сьвятую Царкву, што далей будзем працягваць працу ды стаяць за веру нашых продкаў, за якую яны ахвярна змагаліся, не шкадуючы навет свайго жыцьця.

Каб наша родная Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква існавала і пасьля нас, мы павінны пакінуць па сабе пераймальнікаў. Ніколі ня позна заахвочваць нашых маладзейшых, каб далучаліся да актыўнай працы ў сваей Царкве, ды каб заўсёды бралі ўдзел у Службах Божых. Трэба пасылаць моладзь у сэмінарыі, каб нам мець новую зьмену сьвятароў.

З вялікай надзеяй у сэрцы нам трэба здавацца на Ласку Божую, рабіць усё магчымае, каб не паяўляўся зьнявер, ды аддана і ахвярна працаваць для свае роднае Царквы. Усе мы патрабуем папраўы, каб стаць прыкладнымі хрысьціянамі і навет, каб выхоўваць сваіх дзетак, ці ўнукаў, на прынцыпах хрысьціянскае маралі. Нам трэба шмат папрацаваць над сабою, каб стаць сьвятлом для сьвету, каб быць дастойннымі пасьлядоўнікамі нашых слаўных і багабойных продкаў, сьвятых і мучанікаў, ды найбольш дасканалага Богачалавека і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.



**З любоўю да Госпада Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста і да ўсіх вас, дарагія Браты і Сёстры, ды з надзеяй на лепшую будучыню нашае Сьвятое Царквы і нашага Беларускага Народу ў новым Тысячагодзьдзі!**

**Дня 14-га, кастрычніка месяца, 1988 Г.Б.**
**Катэдральны Сабор Сьв.Кірылы Тураўскага**
**у Брукліне, штату Ню Ёрк, ЗША**

**†Ізяслаў, Мітрапаліт**
**Першагерарх Б.А.П.Ц.**

# ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЕ ХРОСТУ БЕЛАРУСІ Ў НЬЮ ЁРКУ



**На сьвяткаваньні ў Нью Ёрку. Зь лева на права: студэнт Цімафей, протапрасьв. Васіль Кендыш, еп. Цімафей, мітрапаліт Ізяслаў, еп. Макарый, прат. Максім, ерадыякан Іннакент, і іпадыякан Леанід Войтэнка**

**У Нядзелю Божую, дня 23-га, кастрычніка месяца, 1988 г., у Катэдральным Саборы сьв.Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрк, адбылося ўрачыстае адзначэньне тысячных угодкаў пачатку хрышчэньня Беларусі ў Праваслаўную Веру. Сьвяткаваньне пачалося**



**На прыняцьці ў Нью Ёрку — еп. Цімафей, мітрапаліт Ізяслаў і еп. Макарый**

Ўрачыстай Архірэйскай Сьв.Літургіяй, узначаленай Яго Высокапрэасьв. Мітрапалітам Ізяславам, Першагерархам Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, у саслужэньні Епіскапаў УАПЦ Макарыя і Цімафея , Протапрасьвіцера а.Васіля Кендыша, Протаерэя а.Максіма Таўпекі і Ерадыякана Інакента. Хор пад кіраўніцтвам спадарычны Ларысы Курыла прыгожа выконваў літургічныя песьні. Вернікі ўважна прыслухоўваліся да вялікай Багаслужбы ў мовах славянскай, беларускай, украінскай і англійскай. Сьв.Евангельле і пропаведзі гучалі пабеларуску і па-англійску. Пры ўдзеле ўсіх Герархаў і духавенства быў адслужаны ўрачысты Малебен Удзячнасьці. Прыслужвалі ў службах — сп.Леанід Войтэнка, сп.Мікалай Войтэнка і студэнт Украінскае Праваслаўнае Сэмінарыі, Цімафей.

Сьвяткаваньне прадаўжалася ў залі Сабору, дзе пасьля благаславенства і ўступнага слова Уладыкі Мітрапаліта, былі прачытаныя шматлікія прывітаньні ад герархаў і асоб з розных канцоў сьвету, што не змаглі асабіста прысутнічаць у нашым сьвяткаваньні. Вось некаторыя з іх: 1)Ад Архіепіскапа Яковаса, Экзарха Экумэнічнага Патрыярха на Амэрыку (зьмяшчаецца ув арыгінале); 2)Ад Мітрапаліта Васілія, Першагерарха УГПЦ Канады, які дзякуе за ўдзел нашага Першагерарха Б.А.П.Ц., Мітрапаліта Ізяслава, у іхнім сьвяткаваньні тысячагодняга юбілею Хрышчэньня Русі і вітае нас з нашым вялікім сьвятам; 3)Ад Архіепіскапа Анатолія, УАПЦ у Нямеччыне; 4)Ад Епіскапа Усевалада, УПЦ ўв Амэрыцы: „Тысячагодзьдзе Хрысьціянства ёсьць супольным для абедзьвюх нашых









GREEK ORTHODOX ARCHDIOCESE OF NORTH AND SOUTH AMERICA
ΕΛΛΗΝΙΚΗ ΟΡΘΟΔΟΞΟΣ ΑΡΧΙΕΠΙΣΚΟΠΗ ΒΟΡΕΙΟΥ ΚΑΙ ΝΟΤΙΟΥ ΑΜΕΡΙΚΗΣ
10 EAST 79th STREET, NEW YORK, N.Y. 10021 • TEL (212) 570-3500 • CABLE ARCHGREEK, NEW YORK

B. A. O. C.
METROPOLITAN
IZIASLAV
RECEIVED
DATE 10-8-88
NO. 108/88/...

October 6, 1988

The Most Rev. Metropolitan
I Z I A S L A V
(Byelorussian Autocephalous Orthodox Church)
92 Commonwealth Avenue
Piscataway, NJ 08854

Your Excellency,

Please accept my heartfelt gratitude for your recent letter inviting me to the observance on October 23, 1988, marking the Millennium of the Baptism of Byelorussia into the Holy Orthodox Faith. Unfortunately, I will be unable to attend since I will be in Washington, D.C. for the Feastday of Saint Iakovos and I take this opportunity to convey to you my best wishes for a most joyous and blessed day.

It is my fervent hope that the Millennium celebrations will inaugurate a new era wherein Orthodox jurisdictions in the Diaspora will come together, recognizing the special place of the the Ecumenical Patriarchate. May Almighty God grant you "all good things from above" and may "the Lord of peace himself give you peace at all time in all ways. The Lord be with you all".

Faithfully yours,

Archbishop Iakovos

I A K O V O S
Archbishop of the Greek Orthodox
Church of North and South America

AI/da

**Прывітаньне на 1000-годзьдзе хросту Беларусі атрыманае ад архіепіскапа Якаваса**

Цэркваў і народаў, беларускага і украінскага. Аднолькава мы церпім ад бязбожнае Савецкае ўлады на нашых Родных Землях. Але нам трэба маліцца і глыбока верыць, што прыйдзе час, калі нашыя цярпеньні скончацца і нашыя шматпакутныя народы зажывуць вольным-незалежным жыцьцём.” 5)Ад Епіскапа Антонія, УПЦ ў ЗША:„На працягу 10-ці сталецьцяў пабожныя вернікі абодвух народаў, украінскага і беларускага, выявілі сваю непахісную вернасьць Хрысту і прынцыпам Сьвятога Праваслаўя. Зазналі яны, асабліва ў гэтым 20-тым ст., жорсткага прасьледу ад тых, што хацелі ды і далей хочуць зьнішчыць унікальны царкоўны і грамадзкі характар двох народаў. Гісторыю Беларускай Царквы і Народу аздобілі хоры родных Божых угоднікаў — сьвяціцеляў, сьвятароў, манахаў, манашак і тысячаў пабожных верных, што паводле слоў Збаўцы „выбралі сабе лепшую долю...” і служылі дзеля Імя Гасподняга.” 6)Ад Парахвфіяльнае Рады Парахвіі сьв.Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне, Аўстралія; 7)Ад Рады Б.А.П.Ц. ў Вяліка Брытаніі і інш..

Асабіста віталі нас і нашу Царкву прысутныя Епіскапы Макарый і Цімафей, Протапрасьвіцер Іван Ткачук, сакратар Кансысторыі УПЦ ўв Амэрыцы і іншыя.

Сп.Барыс Данілюк з нагоды сьвята зладзіў прыгожую і багатую выстаўку кніг, адлюстроўваючых усю шматграннасьць беларускага рэлігійнага мастацтва і архітэктуры мінулых вякоў. За прыгатаваньне смачнага абеду вялікая падзяка належыцца сп-ні Аліне Лысюк і ўсім сяброўкам сястрыцтва, што ей памаглі.

Пасьля афіцыйнае часткі сьвяткаваньня і пасьля абеду парахвіяне і госьці доўга асталіся ў залі за агульнай прыяцельскай бяседай.

## Сьвяткаваньне 1000-годняга Юбілею Хрысьціянства ў Беларусі
### *Манчэстэр, Англія*

Дня 1-га чэрвеня, 1988 г., прыбыўшага на запросіны Рады Б.А.П.Ц. ў Вяліка-Брытаніі Яго Высокапр. Ўладыку Мітрапаліта Ізяслава віталі на лётнішчы Мітрафорны Протаерэй Ян Абабурко і сп.Уладзімір Гінько, Скарбнік Рады.

Дня 4-га чэрвеня адбылося паседжаньне Рады пад старшынствам Уладыкі Мітрапаліта, на якім былі абгавораны парадак сьвяткаваньня і іншыя справы царкоўна-грамадзкага жыцьця ўв Англіі.

Дня 6-га чэрвеня: сьвяткаваньне 1000-годзьлзя Праваслаўнага Хрысьціянства ў Беларусі пачалося Сьвятой Архірэйскай Літургіяй, узначальванай Я.Выс.Мітрапалітам Ізяславам у саслужэньні Мітрафорнага Протаерэя Яна Абабурко і Протаерэя Яна Пекарскага. Пасьля ўрачыстае Сьв.Літургіі быў адслужаны адмысловы Малебен





**Малебень Падзякі ў Манчэстары**

да Сьв.Багародзіцы за наш Беларускі Народ.

У сваей казані з нагоды вялікага юбілею Ўладыка Мітрапаліт адзначыў, што на працягу ўсяе 1000-гадовае гісторыі ў нашым Беларускім Народзе было многа сваіх сьвятых, хоць не аб усіх іх асталася памяць у народзе. Але яны моляцца за ўсіх нас перад алтаром Найвышэйшага. У нашых жыцьцёвых справах мы павінны зьвяртацца за дапамогай да ўсіх іх і да Маці Божае, бо малітвы іх ёсьць моцныя і чутныя Богу.

Папоўнены людзьмі з іншых асяродкаў прыгожа і моцна гучэў хор. Царква была да атказу перапоўнена вернікамі мясцовымі і прыехаўшымі з Брадфарду, Нотынгаму, Вульвэргамптону, Лёндану, Стывэнаджу, ды іншых мясцоў. Сьвяткаваньне працягвалася на нізе ў царкоўнай залі, дзе афіцыйная частка пачалася малітвай і прывітальным словам настаяцеля Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці, Мітраф.Прот.а.Яна Абабурко. Сп.Я.Калбаса, Сакратар Рады, прачытаў прывітаньні, прысланыя лякальна і з-за мяжы.

Абшырны даклад на тэму дня пад загалоўкам „Хрысьціянства і Сьвятыя Беларусі” прачытаў Уладыка Мітрапаліт, у якім насьветліў палітычныя і царкоўныя падзеі ў Беларусі і іншых краёх тагачаснага славянскага і неславянскага сьвету. Хоць афіцыйна нашае хрысьціянства было прынятае з Бізантыі, але галоўны ўдзел у яго прапаведваньні прымала сьвятарства з Баўгарыі і ад іншых, Славянаў. Далей Уладыка шмат гаварыў аб услаўленых нашых




сьвятых, пра якіх засталася памяць у народзе, прытым адзначыў, што найбольш мучанікаў мы здабылі за апошніх 70 гадоў бязбожнае камуністычнае ўлады на нашых землях. Усе сьвятыя і мучанікі за Праваслаўную Веру і за волю ды справядлівасьць для нашага Народу будуць мець вялікі ўплыў у вырашэньні будучае долі Беларусі.

Урачыстасьць закончылася смачным абедам прыгатаваным сп. Надзяй Міхалюк з яе сяброўкамі, пад кіраўніцтвам яе мужа Віктара Міхалюка. Уражаныя вялікай падзеяй, усе людзі доўга аставаліся пасьля абеду ў прыяцельскай бяседзе.

Парафіянін

# 1000-ГОДНІ ЮБІЛЕЙ У АЎСТРАЛІІ

Парахвія сьв.Віленскіх Мучанікаў, Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Мэльбурне, Аўстралія, урачыста адсьвяткавала наш Вялікі Юбілей — 1000 Гадоў Праваслаўнага Хрысьціянства ў Беларусі — у Нядзелю, дня 24-га, красавіка месяца, 1988 г..

Вернікі, у сьвяточным настроі і раней, чым звычайна, запоўнілі належна ўпрыгожаную нашу сьвятыню. Сьвятую Літургію супольна адслужылі Кіраўнік Парахвіі а.Аляксандар і а.Міхаіл з Адэляйды. Вельмі прыгожа і мілагучна пяяў узмоцнены хор пад умелым





**З сьвяткаваньня Тысячагодзьдзя Хрысьціянства Беларусі ў Царкве Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне, Аўстраліі.**

кіраўніцтвам брата Мікалая.

Урачысты Малебен Удзячнасьці служылі шэсьць духоўнікаў праваслаўных, прэсбытэрыянін др.Бэнэй і маёр Брыян з Salvation Army (Армія Збаўленьня). Царква была перапоўнена, як ніколі. Моцна адчувалася веліч падзеі, панаваў узьняты настрой у супольнай малітве духавенства і вернікаў. Асабліва ўзварушваючым быў сьпеў духоўных „Бог Госпадзе явіся нам...", ды прыпеў „Іісусе Сыне Божы памілуй нас..." Малебен закончыўся прасьпяваньнем мнагалецьця Першагерарху Сьв.Б.А.П.Ц. Яго Высокапрэасьв. Мітрапаліту Ізяславу, усяму Беларускаму Народу, саслужнікам малебена, будаўнікам сьвятыні нашай і ўсім прысутным. Урачыстая Багаслужба закончылася нашым царкоўным гімнам-клічам да Ўсемагутнага „Магутны Божа, Ўладар сусьвету..."

Другая, сьвецкая частка ўрачыстасьці адбылася ўв абшырнай македонскай прыцаркоўнай залі, упрыгожанай букетамі жывых кветак, бел-чырвона-белым сьцягам, каляровымі шарамі, ды плякатам „1000 Гадоў Хрысьціянства ў Беларусі". Ля прэзыдыяльнага стала красаваўся выдатна аздоблены каравай з такім-жа надпісам. Густоўна расстаўленыя сталы, што аж гнуліся ад мноства смашных страваў, прыгатаваных умелымі рукамі сяброўак сястрыцтва, багаславіў Кіраўнік Парахвіі а.Аляксандар; усе прапяялі Войча Наш.

Гаспадаром урачыстасьці быў брат Васіль. Афіцыйная частка пачалася Аўстралійскім гімнам. Вельмі добра падрыхтаваны рэ-



**Гурток Каліна выступае ў Мэльбурне на сьвяткаваньні 1000-годзьдзя Хрысьціянства Беларусі.**

фэрат, што насьвятляў значэньне Праваслаўнае Царквы ў гісторыі нашага Народу, ды пры фармаваньні і абароне нашае дзяржаўнасьці і незалежнасьці, прачытала сястра Надзя на беларускай мове, а брат Мікалай (у скароце) па-ангуілйску.

У мастацкай частцы наш слаўны гурток маладых пяюняў і танцорак „Каліна" прапяяў чатыры песьні. Бурныя воплескі і клічы „мала" выпрасілі і пятую...Брат Аўген прадэклямаваў глыбокага зьместу верш. Хор сталых выканаў дзьве песьні. Гурток „Каліна" памайстэрску выканаў народны наш танец „Месяц". Было нямала асабістых выступленьняў з прывітаньнямі і прынагоднымі прамовамі. Пад канец абодва хоры разам прапяялі папулярную „Люблю наш край..." і ўрэшце Беларускі Нацыянальны Гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

І так пры вясёлым настроі і ў сяброўскай бясєдзе звыш 130 асоб адзначыла 1000-годні Юбілей Праваслаўя ў Беларусі далёка-далёка ад родных ніў, на Аўстралійскім кантынэнце. З прыемнасьцю трэба адзначыць актыўны ўдзел у сьвяткаваньні нашай моладзі, якая разумее і глыбока праймаецца трагізмам нашага гістарычнага лёсу, ды шануе і любіць мову сваіх прадзедаў і нашы багатыя традыцыі-звычаі, песьні, танцы. А гэта нам пацеха і зарука лепшай будучыні Народу.

ооо



### *Юбілей 1000 Гадоў Хрысьціянства Беларусі ў Царкве Сьв. Ап. Пятра і Паўла ў Адэляйдзе, Паўдзённай Аўстраліі*

*14-га ліпеня, 1988г.*

Сьв. Літургію саслужылі а. протапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі з а. Міхаілам Бурносам. На Малебен Удзячнасьці прыбылі яшчэ сьвятары: а. Генадзі Сытнік і а. Пятро Касацкі з Украінскае Праваслаўнае Царквы, а. О. Петковіч з Сэрбскае і а. Язэп Тэсар з Македонскае.

У прыцаркоўнай залі быў прыгатаваны абед на прысутных 150 асобаў.

Сьвяткаваньне прадаўжалася чытаньнем прывітаньняў, дакладаў на тэму дня і мастацкае часткі.

## МІТРАПАЛІТ ІЗЯСЛАЎ НА СЬВЯТКАВАНЬНЯХ ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ ХРЫШЧЭНЬНЯ РУСІ—УКРАІНЫ

### *У Гюстон, Тэксас*

Уладыка Ізяслаў, мітрапаліт БАПЦ быў запрошаны на сьвяткаваньне 1000-Годзьдзя Праваслаўнага Хрысьціянства Русі-Украіны ў манастыр 4-ох Эвангелістаў, УАПЦ, у Гюстон, Тэксас 24-га ліпеня, г.г. Там быў сустрэты епіскапамі Макарыям і Цімафеям ды ерадыяканам Іннакентам.

23-ліпеня ў манастырскай Царкве была адслужана Вячэрня, ачоленая Мітрапалітам з удзелам епіскапаў і ерадыякана і прысутных вернікаў. Службы Божыя ў манастыры праводзяцца мовамі: англійскай, іспанскай, і ўкраінскай у залежнасьці ад таго, якія вернікі бываюць у Царкве.

24 ліпеня ўрачыста адправілася Сьв. Архірэйская Літургія пры ўдзеле ўсіх герархаў, ерадыякана й прысутных вернікаў. Уся служба выконвалася мовамі англійскай, славянскай і ўкраінскай. Матушка Юлія Лаўрык выконвала ролю дырыгента і саліста. Прыгожыя галасы герархаў, ерадыякана і прысутных зьліваліся ў прыгожую гармонію царкоўнага сьпеву.

Увечары адбыўся канцэрт у чэсьць Тысячагодзьдзя Праваслаўнага Хрысьціянства Украінскага і Беларускага Народаў, у прысутнасьці мітрапаліта Ізяслава, пад кіраўніцтвам еп. Макарыя. Мяшаны хор, што складаецца з сьпевакоў розных Цэркваў, прыгожа выконваў літургічныя песьні на мовах англійскай і ўкраінскай пад адкрытым



**На сьвяткаваньні ў Манастыры 4-ох Эвангелістаўу Гюстон, Тэксас.**

небам Тэксасу. Для ўсіх удзельнікаў і гасьцей было зладжана прыняцьце, на якім можна было сустрэцца з некаторымі гасьцямі прысутнымі на канцэрце і пачуць іх уражаньні аб добрым канцэрце. 28 ліпеня мітрапаліт Ізяслаў узяў удзел у сьв. Архірэйскай Літургіі ў дзень Сьв. Ўладзіміра. Як на канцэрце, так і на гэтай Сьв. Літургіі мітрапаліт меў сваю казань на тэму Юбілею і сьв. кн. Ўладзіміра.

Манастырская атмасфэра духовага супакою і актыўнае дзейнасьці добра ўплывае на здароўе і самапачуцьцё.

### *У Саўт Баўнд Бруку, Нью Джэрзі*

5-7 жнівеня, 1988 г., мітрапаліт Ізяслаў браў удзел у Тысячагодзьзі Хрысьціянства Ўкраіны ў Саўт Баўнд Бруку, запрошаны мітрапалітам Мсьціславам, Першагерархам Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША і Дыяспоры.

Багаслужбы складаліся з Вячэрняў і двух сьв. Архірэйскіх Літургій, у суботу, 6-га жнівеня, узначаленай мітрапалітам Васіліем з УГПЦ у Канадзе і 7-га жнівеня, узначаленай мітрапалітам Мсьціславам у саслужэньні ўкраінскіх архіепіскапаў і епіскапаў. Прысутнымі былі: прадстаўнік Канстантынопальскага патрыярха, еп. Усевалад, УПЦ Амэрыкі, мітр. Ірыней і еп. Васілі, Вольная Сэрбская Праваслаўная Царква, мітр. Ізяслаў, БАПЦ і Арх. Еўлогій з Італіі. Саслужыў мітр.



Васілі. Сьвяткаваньне закончылася банкетам, на якім чыталіся і выказваліся прывітаньні ад розных арганізацыяў. Канцэртамі закончыўся вялікі Юбілей Хрысьціянства.

### *У Оўквіл і Гамілтоне, Онтарыё*

13-14 жнівеня г.г. мітр. Ізяслаў меў гонар быць удзельнікам Тысячагодзьдзя Хросту Русі-Украіны ў Праваслаўную Веру ў Оўквіл, Онт. і м. Гамілтоне, запрошаны мітрапалітам Васіліем, Першагерархам УГПЦ Канады.

У Архірэйскай Сьв. Літургіі пад адкрытым небам у Оўквіл саслужылі два епіскапы: Іван з УГПЦ і Антоні з УПЦ ў ЗША з сьвятарствам, а ўсе іншыя герархі былі прысутнымі. Пасьля Малебну быў абед у будынку. Мноства сьвятарства і вернікаў запоўніла будынак, бо на дварэ была гарачая пагода.

Мы не маглі папасьці на канцэрт у Гамілтоне. У нядзелю, 14-га жнівеня у Коппс каллісэум адбылася вельмі ўрачыстая Архірэйская Сьв. Літургія. Пасьля працэсіі герархаў і сьвятарства да месца службы, пачалася сьв. Літургія, ачолена Мітрапалітам Васіліем у саслужэньні мітрапалітаў: Ірынея з Сэрбскае Праваслаўнае Царквы і Ізяслава з БАПЦ, архіепіскапаў: Канстантына з УПЦ і Ўладзіміра з УАПЦ у Аўстраліі, епіскапаў Івана, УГПЦ і Антонія з УПЦ ў ЗША, дыяканаў і сьвятарства. Вялікі хор і вельмі многа вернікаў запаўнялі вялікую спартовую залю. Сьв. Літургія праходзіла ўрачыста, бо вялікі хор быў чутны нават у вялікай залі, нямаючы адпаведнай акустыкі. Прысутнымі былі: еп. Сотырыёс, еп. Усевалад і еп. Макарый.

Пасьля доўгае Багаслужбы ўсе пайшлі на Юбілейны банкет. Там зноў было шмат выступаў з прывітаньнямі і прамовамі герархаў і цывільных людзей.

Цікавым зьявішчам была прысутнасьць на абох сьвяткаваньнях мітр. прот. Васіля Романюка, які нядаўна прыехаў з сваім сынам з Украіны. Ён пабыўшы на ссылцы, меў сапраўды натхнёныя прапаведзі. Магчыма сьвет пабачыў, хто сапраўды сьвяткаваў гэты вялікі Юбілей Праваслаўнага Хрысьціянства, хоць і Рым і Масква намагаюцца яго прысабечыць.



# ХРЫСЬЦІЯНСТВА І СЬВЯТЫЯ БЕЛАРУСІ

Летапісы падаюць нам аб легендарным Рурыку, які княжыў у Ноўгарадзе. Пасьля яго ў 879 г. пачаў там княжыць Алег, які, ў 882 г. напаў на Кіеў з сваім вараскім і наўгародзкім войскам, разьбіў і забіў там Кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра, якія праўдападобна былі ўжо хрысьціянамі. Алег княжыў у Кіеве да свае сьмерці ў 912 г. Пасьля яго Кіеўскім князем стаў Ігар, які жаніўся з Вольгай з пад Пскова. Аб ім пішуць, што ў 941 і 944 гг. хадзіў на Візантыю ды зрабіў дагавор з ёю, але быў забіты Драўлянамі, дзесь на нашым Палесьсі, у часе збору дані або падатку ў 945 г. Праз малалецтва, а пасьля праз адсутнасьць свайго сына кн. Сьвятаслава, Вольга ўладарылы ў Кіеве аж да свае сьмерці ў 969 г. У 959 г. яга езьдзіла ў Канстантынопаль, дзе прыняла хрысьціянства. Яе сын Сьвятаслаў Ігаравіч астаўся паганінам. У 965 г. ён разграміў Хазарскі каганат, хадзіў на Волжскую Булгарыю і Баўгарыю. У 972 г. быў забіты Печанегамі на Дняпроўскіх парогах.

Старэйшы сын яго Яраполк стае Кіеўскім князем, а брат яго Уладзімір раней ужо стаў князем Наўгародзкім.

Найбольш вядомая гісторыя Беларускана Народу пачынаецца ў м. Полацку. Нам вядома, што Ноўгарадзкі кн. Уладзімір Сьвятаславіч сабраў вялікае войска з Наўгародцаў і Варагаў ды напаў на Полацк, дзе княжыў Рагвалод. Нам цяпер няведама як доўга прышлося абараняцца Полацку ад наезьнікаў, але вядома, што ў гэтым



змаганьні быў забіты кн. Рагвалод і яго сын, а дачка князёўна Рагнеда была змушана стаць жонкай пераможцы Уладзіміра. Некалькі гадоў пазьней з гэтакім войскам кн. Уладзімір адправіўся ў Кіеў, дзе, перамогшы і забіўшы свайго брата Яраполка, стаў вялікім князем Кіеўскім. Ёсьць прыпушчэньні, што Яраполк быў ужо хрысьціянінам і таму ня меў падтрымкі ад паганаў. Уладзімір быў тады заўзятым прыхільнікам паганства і будаваў у Кіеве капішцы розным паганскім бажкам.

У тым часе хрысьціянскімі дзяржавамі былі ўжо: Польшча, Чэхія, Баўгарыя і заходняя Эўропа. Кн. Баўгарскі Барыс прыняў хрысьціянства ў 864 г., а ўся Баўгарыя ў 866 г. У тым-жа часе пачалі сваю пропаведзь у Мараўскай дзяржаве сьв. браты Кірыла і Мяфодзі. Яны пераклалі Сьв. Пісаньне з грэцкае мовы на славянскую. Сьв. Кірыла, высока адукаваны прапаведнік і філосаф, памёр у Рыме ў 869 г., куды ён перад гэтым (у 867 г.) прынёс мошчы сьвяшчэнна-мучаніка Клімэнта, папы Рымскага, які знаходзіўся ў Херсанэсе. Сьв. Мяфодзі, быўшы разам у Рыме, быў пасьвячаны на архіепіскапа Маравіі, куды ён вярнуўся. Там ён быў пасаджаны і пражыў у турме больш чым два гады. Нямецкія місіянеры дзейнічалі нават супраць волі папаў, каб не дапусьціць да ўстанаўленьня Царквы з славянскай мовай. Таму, пасьля сьмерці арх. Мяфодзія ў 885 г., немцы нават забівалі вучняў яго, якія ня ўцяклі з Маравіі, называючы іх герэтыкамі. Пропаведзь і службы сьв. Кірылы і Мяфодзія мелі вялікі посьпех паміж славянамі. Немцы за ўсякую цану хацелі пазбавіцца іх і, дзе маглі, зьнішчылі ўсю іхную літаратуру.

У Кракаве былі ўжо епіскапы Славянскае Мяфодзіеўскае Царквы якія служылі і прапаведвалі па-славянску. Царква гэтая добра замацоўвалася на Мазовіі і мела свае ўплывы ў заходняй Польшчы. Польскі Кароль Болеслаў Аднавіцель зьнішчыў яе ў 1047 г. і завёў заходняе лацінства. Палякі лічаць 966 г. датай свайго хрышчэньня, але іхныя летапісы нічога аб гэтай падзеі ня пішуць. Гэта хутчэй ёсьць дата хрышчэньня караля Мешка I у лацінскім абрадзе.

Хрысьціянства прыйшло на нашыя землі з Візантыі, якая была ў тым часе наймагутнейшай і найбольш культурнай дзяржавай у Эўропе і Азіі. Летапісы падаюць дату хрышчэньня Русі ў Кіеве 988 г. Вялікі кн. Уладзімір быў ахрышчаны ў Кіеве, а пасьля ўсе яго сыны і ўвесь двор і пазьней усе жыхары м. Кіева. У Кіеве тады прыняла хрысьціянства кн-я Рагнеда, жонка вялікага кн. Уладзіміра, які ахрысьціўшыся аставіў пры сабе толькі адну жонку Анну, сястру Канстантынопальскіх імператараў Васіля II і Канстантына VIII.

Кн-я Рагнеда вяртаецца з сынам Ізяславам на сваю бацькаўшчыну ў Полацк, дзе пры дапамозе духавенства з Кіева і Візантыі хрысьціць Беларускі народ. Яна пастрыгаецца ў манаства з імям Анастасіі і засноўвае манастыр у Ізяслаўлі (Заслаўі) на поўнач ад Менска.

Кн-я Рагнеда вызначалася сваім розумам і выхоўвала сваіх сыноў быць добрымі князямі. Вялікі кн. Кіеўскі Яраслаў, празваны мудрым,

быў адным з яе сыноў. Памерла яна ў 1000г.

Кн. Ізяслаў, сын кн-і Рагнеды і вялікага кн. Кіеўскага Ўладзіміра Сьвятаславіча, прыбыўшы ў Полацк, займаўся адбудовай краю і пропаведзьдзю хрысьціянскае веры ў Надзьвіньні. Народ прывітаў яго як Рагвалодавага ўнука, дапамагаючы яму ў місіянерстве і ў працы адбудовы Полацка. У летапісе напісана аб ім: Быў гэты князь ціхі і лагодны, літасьцівы і пакорны, і вельмі шанаваў сьвятарскі чын і манашы, і пільна гарнуўся да Сьв. Пісьма. Памёр Ізяслаў у маладым веку ў 1001 г.

Плёнам вялікае дзейнасьці і працы Рагнеды-Анастасіі і сына яе кн. Ізяслава было заснаваньне епіскапства ў Полацку ў 992 г. Да нас не дайшлі імёны першых епіскапаў, але ўспамінаюцца: еп. Міна, які быў пасьвячаны ў 1105 г. а памёр у 1116 г., еп. Дзіянісі, памёр у 1182 г. і еп. Сымон, які памёр у 1280 г.

Другое епіскапства заснаванае на Беларусі было Тураўскае над р. Прыпяцьцю ў 1005 г. Акрамя Віленшчыны да яго належалі ўсе этнічныя землі Заходняе Беларусі з часткай Валыні. Успамінаецца першы еп. Тамаш (Хама).

Трэйцяе епіскапства было заснаванае ў г. Смаленску ў 1137 г. стараньнямі сьв. кн. Расьціслава Мсьціславіча (1100-1159).

Пасьля прыняцьця хрысьціянства, якое прапаведвалася на зразумелай мове, нядаўныя пагане, пад уплывам вучэньня Праваслаўнае Царквы, рабіліся багабойнымі хрысьціянамі. Паміж імі збольшваліся дабрачынствы і маральнасьць. У людзей нараджаліся новыя прадстаўленьні аб жыцьці, новыя ідэі, якія яны імкнуліся выявіць у сваім жыцьці. Некаторыя вельмі рэлігійныя людзі астаўлялі свае дамы і ішлі ў глухія месцы для малітвы і аскетычнага жыцьця. Яны ставалі манахамі або манахінямі незалежна ад стану — знатныя і простыя. Мала запісана імёнаў тых выдатных падзьвіжнікаў, што праславіліся ў Беларусі. Да тых, якія былі залічаныя да ліку сьвятых ды пра якіх асталася ў народзе памяць належаць ніжэй паданыя.

У родзе Полацкіх князёў Ізяславічаў, Рагвалодавых праўнукаў, захоўвалася рэлігійная стараннасьць. Сьв. Ефрасіньня (Прадслава), дачка кн. Юрыя Ўсяславіча, паходзіла з гэтых князёў і па лініі матчынай было зрадненьне з імператарскім родам у Візантыі. Выхаваная ў вялікай пабожнасьці, яна з маладых гадоў любіла чытаць Сьв. Пісаньне. Бацькі хацелі выдаць яе замуж, але яна тайком ад іх пайшла ў манастыр да свае цёткі ігуменьні Раманы і была пастрыжана ў манаства з імям Ефрасіньні. Ейны бацька кн. Юры-Сьвятаслаў, даведаўшыся аб гэтым вельмі сумаваў. З дазволу еп. Ільлі, яна заснавала, ў 1125 г. у Сяльцы за Полацкам, Спаскі жаночы манастыр, у якім сама была ігуменяй. Туды яна забрала сваю родную сястру Градзіславу-Еўдакію, Зьвяніславу-Еўпраксію, дачку свайго дзядзькі кн. Барыса, пляменьніцаў Кірыньню-Агафію і Вольгу-Еўфімію, дочак свайго брата Вячаслава і многа іншых дзяўчат і жанчынаў. Яна збудавала некалькі цэркваў і мужчынскі манастыр у



1150 г. у імя Багародзіцы. У гэтых манастырох апрача службаў праводзілася рэлігійная і культурная дзейнасьць, галоўным чынам перапісваньне Сьв. Пісьма і іншых кнігаў і навучаньне граматы людзей. Яна справадзіла цудатворную ікону Богаматкі з м. Эфесу, якую маляваў сам ап. Лукаш, ды пакінула па сабе брыльлянтамі аздоблены крыж з мошчамі сьвятых. У апошні год свайго жыцьця, яна адправілася з братам сваім Давідам і дваюраднай сястрой Еўпраксіяй пакланіцца сьв. месцам нашага збаўленьня ў Ерусаліме. Па дарозе яна адведала Канстантынопаль, дзе з пашанай была прынята імператарам і патрыярхам і, адведаўшы цэрквы і пакланіўшыся мошчам сьвятых, ад'ехала ў Ерусалім. Пакланіўшыся жываноснаму гробу Гасподняму і аставіўшы там залатое кадзіла, яна адведала іншыя сьв. месцы у Ерусаліме і ваколіцах. Маючы вялікае жаданьне там памерці, яна захварэла і ў працягу аднаго месяца адыйшла ў жыцьцё вечнае ў 1173 г. У 1187 г. цела яе было перавезена ў Кіеў і пахавана ў Пячэрскай Лаўры, а ў 1910 г. перавезена ў родны Полацк. Памяць сьв. Ефрасіньні сьвяткуецца 23 травеня (5 гэрвеня н.ст.)

У м. Тураве найбольш уславіўся сьв. Кірыла, еп. Тураўскі, які таммжа нарадзіўся каля 1130 г. У маладым веку ён вельмі цікавіўся навукай. У замку Тураўскага князя жылі тады вучоныя грэкі, ад якіх Кірыла навучыўся грэцкае мовы. Меў ён паэтычныя здольнасьці. У першых стагодзьдзях хрысьціянства на Беларусі асьвета распаўсюджвалася з манастыроў, у якіх гуртаваліся асьвечаныя людзі. Кірыла ўступае ў манастыр, дзе хутка зьвяртае на сябе ўвагу праз свае здольнасьці. Па нейкім часе прыймае пострыг і стае манахам. Ацэньваючы шматлікія прыклады дабрадзейнасьці і красамоўнасьці ў пропаведзі, жыхарства і мясцовае духавенства выбірае яго сваім епіскапам. Быў ён добра азнаёмлены з візантыйскай літаратурай і, акрамя красамоўных пропавядзяў, пісаў пасланьні, малітвы і каноны, за што быў празваны залатавусным. Шматлікія ягоныя пропаведзі і пасланьні захаваліся да нашых дзён. Яны сьведчаць аб яго вучонасьці і дару Сьв. Духа. Творы сьв. Кірылы набылі вялікую папулярнасьць ня толькі на Беларусі і Ўкраіне, але і ў Баўгарыі і іншых хрысьціянскіх краінах.

У 1182 г., пасьля 20-і год архіпастырскае дзейнасьці, сьв. Кірыла астаўляе епіскапства і зачыняецца ў манастыры, дзе і памірае ў 1183 г. У другой палавіне 13-га стагодзьдзя ён залічваецца да ліку сьвятых. Памяць яго сьвяткуецца 28-га красавіка (11 травеня). Да сьв. Кірылы епіскапамі ў Тураве ўспамінаюцца Сымон, Ігнат, Якім і Юры.

Намесьнікам сьв. Кірылы стаў яго вучань сьв. Лаўрэнт, які быў Тураўскім епіскапам ад 1182 да свае сьмерці ў 1194 г. у Тураве. Памяць яго сьвяткуецца 29 студзеня (11 лютага).

Прэпадобны Арэфа нарадзіўся ў г. Полацку, але жыцьцё сваё правёў у Кіева-Пячэрскім манастыры. Там ён памёр 24 лістапада 1190 г. і быў пахаваны.

У Смаленску зьяўдяецца свой вялікі вучоны і філосаф Клім Смаляціч, які спачатку стае еп. Смаленскім, а пасьля выбіраецца месньмі епіскапамі на мітрапаліта Кіеўскага (1146-1154).

Сьв. Аўрам, атрымаўшы шырокія веды ад свайго настаўніка Кліма Смаляціча, стаў вялікім місіянерам і епіскапам Смаленскім. Памёр у 1221 г. Памяць яго 21 жнівеня (3 верасьня).

Сьв. Яфрэм, вучань Аўрама Смаленскага, памёр у 1238 г. у Смаленску. Сьв. Ігнат, еп. Смаленскі, супрацоўнік сьв. Аўрама, памёр у 1210 г. Сьвяткуецца 29 студзеня (11 лютага).

Сьв. Мучанік Мэркуры Смаленскі быў забіты татарамі у часе асады Смаленску ў 1238 г. Памяць, яго 24 лістапада (7 сьнежня).

Сьв. Хведар, кн. Смаленскі, цудатворац. Памёр у 1299 г. Сьвят. 19 верасьня (2 кастрычніка).

Сьв. Давід, сын кн. Хведара, памёр у 1321 г. і брат яго Канстантын. Сьв. Прэпадобная Параскева, дачка Полацкага кн. Рвгвалода Барысавіча, ігуменьня Полацкага манастыра, замучана нямецкімі крыжаносцамі 16 кастр. 1281 г.

Сьв. Прэп. Сымон, еп. Полацкі-Цьверскі з роду Полацкіх князёў. Памёр у 1289 г.

Сьв. Харытына з роду беларускіх князёў Гальшчанскіх, ігуменьня жаночага манастыра ў Ноўгарадзе, памерла ў 1289 г. Сьвят. 5 кастр. (18 кастрычніка).

Сьв. Цімахвей, у сьвецкім жыцьці Даўмонт, паходзіў з роду беларускіх князёў Гальшчанскіх і быў кн. Пскоўскім у XIII ст. Памяць 20 травеня.

Сьв. кн. Андрэй Смаленскі, Пераяслаўскі цудатворац. Памёр 27 X 1930 г. Сьв. Віленскія Мучанікі Антон, Ян і Еўстафі замучаныя ў 1347 г. у Вільні Памяць іх 14,X,(27 кастрычніка).

Сьв. Прэп. Ціхан Лухоўскі або Кастромскі нарадзіўся недалёка г. Вільні. За часоў караля Ягайлы перасяліўся на ўсход і жыў у ваколіцы Лухі, дзе пазьней пабудаваў манастыр Сьв. Мікалаая. Памёр 16 чэрвеня 1492 г.

Сьв. Мучанік Макар, нарадзіўся ў Вільні. Быў ігуменам Віленскага Троіцкага манастыра, а ў 1490 г. пастаўлены Кіеўскім мітрапалітам, астаючыся жыць у Вільні. У 1494 г. быў забіты Крымскімі татарамі ў Царкве каля Мозыра.

Сьв. Юльяна, дачка беларускага кн. Юрыя Дубровіцкага-Гальшчанскага, памерла на 16-м годзе жыцьця ў 1540 г. Мошчы яе знаходзіліся ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Сьвяткуецца 6 ліпеня (19 ліпеня).

Сьв. Прэп. Генадзь Кастромскі, нарадзіўся каля Віцебска, пабудаваў манастыр каля рэчкі Кастромы і быў вялікім мастаком абразоў. Памёр 23 травеня (5 чэрвня) 1565 г.

Сьв. Мучанік Павал Віленскі.

Сьв. Лявонці Карповіч, Віленскі архімандрыт. Памёр у 1617 г.

Сьв. муч. Апанас Берасьцейскі (Піліповіч) працаваў у канцэлярыі канцлера Льва Сапегі ў Вільні, у 1627 г. прыняў манаства ў Віленскім Сьвята-Духаўскім манастыры і быў скіраваны ў Куцеінскі манастыр каля Воршы. У 1632 г. рукапаложаны ў Вільні ў сан ераманаха і назначаны намесьнікам Дубойскага манастыра каля Пінска, перданага вуніятам у 1636 г. За заўзятую абарону праваслаўя, правоў і прывілеяў манастыра перад каралём на сойме ў Варшаве папаў у турму. Маючы падтрымку мітрапаліта Пятра Магілы, ён мог вярнуцца ў Берасьце, але пасьля сьмерці мітрапаліта ўжо ня мог там спакойна жыць. У часе паўстаньня Багдана Хмяльніцкага ў 1648 г. яго зноў арыштавалі палякі і замучылі на сьмерць. Ігумен манастыра Сьв. Сымона ў Берасьці Апанас закончыў сваё жыцьцё як мучанік за Праваслпўную веру. Памяць 5,IX,(18 вер.).



Сьв. Мучанік Гаўрыла Слуцкі-Заблудаўскі замучаны ў 1690 г. Пам. 20 красавіка (6 травеня).

Сьв. пам. Мелхісэдэк, мітрапаліт Менскі, сьвецкае імя Міхаіл Паеўскі, нарадзіўся каля Берасьця, сын сьвятара. Да 1910 г. быў архімандрытам, а пасьля епіскапам Таўрычаскае епархіі. Пасьля ад'езду еп. Юрыя Ярашэвіча з Менску, еп. Мелхісэдэк быў назначаны на Менскую епархію. 23 ліпеня 1922 г. ён склікаў Царкоўны Сабор у Менску, на якім была абвешчана Беларуская Мітраполія, незалежная ад Масквы. Тады былі зарганізаваныя 4 Беларускія епархіі: Менская з мітрапалітам Мелхісэдэкам; Бабруйская з еп. Філарэтам Раменскім; Мазырская з еп. Янам Пашынам; і Слуцкая з еп. Мікалаем Шэмяцілам.

У 1927 г. адбыўся другі Царкоўны Сабор у Менску пад кіраўніцтвам Бабруйскага еп. Філарэта (вікарыя Менскае епархіі), які зацьвердзіў статут Беларускае Мітраполіі.

За акт абвешчаньня Беларускае Мітраполіі і за рэлігійную дзейнасьць мітрапаліт Мелхісэдэк быў вывезены ў Краснаярск, на Сібір, а ў канцы 1930 г. быў выкліканы ў Маскву, дзе як мучанік закончыў сваё жыцьцё. Падобны лёс спаткаў і трох беларускіх епіскапаў, тысячы сьвятароў і сотні тысячаў вернікаў Беларускае Мітраполіі.

*Нашая паняволеная Беларусь* за 70 г. савецкае бязбожнае ўлады найбольш узбагацілася мучанікамі, лік якіх перавышае ў шмат разоў усіх нашых мучанікаў ад пачатку хрысьціянства. Трэба сьцьвердзіць, што ні наш народ ні нашая Царква ня маюць на сваім сумленьні злых учынкаў супраць сваіх суседзяў. Як Масква так і Польшча разам з сваімі Цэрквамі былі саўдзельнікамі ў злачынствах супраць нашага народу і нашае Царквы. Польшча ад Крэўскае вуніі ў 1386 г. пачала накідаць нам сваё рыма-каталіцтва. Праз Берасьцейскую вунію 1596 г. Польшча імкнулася падпарадкаваць нашую Праваслаўную Царкву сваёй рыма-каталіцкай. У далейшым пляне была поўная палянізацыя нашага Народу. Да II разбору каралеўскае Польшчы ў 1793 г. па ўсёй Беларусі былі ўжо езуіцкія і іншыя каталіцкія мужчынскія і жаночыя манастыры і школы, праз якія вялася палянізацыя і акаталічваньне

праваслаўных беларусаў, ды брутальнае нішчэньне беларускае самабытнае духовае культуры.

Масква з сваёй Царквой нішчыла іншыя культуры і народы. Так у Ноўгарадзе Масква праз сваіх першагерархаў кідала анатэму на правадыроў рэспублікі з тым, каб падарваць іх аўтарытэт у народзе. Забраўшы Ноўгарад і Пскоў, Маскоўскія цары вывозілі аўтахтонаў гэтых народаў у Маскоўшчыну, а туды прывозілі сваіх людзей. Адразу ў такіх гарадох заводзіліся новыя таталітарныя парадкі. Далучыўшы Літву-Беларусь да свае дзяржавы, яны адразу зьлiквідавалі і Беларускую Праваслаўную Царкву, а ўва ўсіх парафіях завялі свой служэбны парадак з пропаведзьдзю на расейскай мове. Яны і тады імкнуліся зьнішчыць нашую самабытную, вышэйшую ад іхняе, культуру. Камуністычная Масква прадаўжае палітыку цароў адносна Беларусі. Там нятолькі брутальна была зьнішчана Беларуская мітраполія, але наагуд усё беларускае паступова выкарэньваецца. Цяпер беларусы баяцца гаварыць сваёй роднай мовай. Беларуская моладзь змушана шукаць працы далёка ад свае бацькаўшчыны, ў той час як у нашых гарадох лёгка знаходзяць працу расейцы. Беларуская літаратура друкуецца вельмі малымі тыражамі, але пераклады яе на расейскую мову друкуюцца непараўнальна большымі лічбамі.

Ня трэба думаць, што цяпер справа рэлігіі там палепшылася. Моладзь ня мае права заходзіць у царкву. Пропаведзь і навучаньне рэлігіі нават прыватна забараняецца, а пра выкладаньне рэлігіі ў школах няма і мовы. І цяпер там ёсьць мучанікі за веру, але аб іх мала пішацца ў прэсе.

Можа дасьць Бог, што злыя дзеяньні Масквы супраць нашага народу абернуцца ім самым на шкоду, а нам на карысьць. Бо Бог мае свой плян для іх і для нашага Народу. Мы павінны верыць, што з Богам мы пераможам усе перашкоды і задумы дыявальскія і выйдзем пераможцамі.

На будучыню трэба старацца, каб нашыя людзі былі больш рэлігійнымі ды каб надалей трымаліся свае Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Трэба быць духоўна незалежнымі, каб адваяваць сабе палітычную незалежнасьць. Без свае Царквы ня можна быць духоўна незалежным.

Усе нашыя сьвятыя моляцца за наш Беларускі Народ перад алтаром Божым і іхнія малітвы будуць мець вялікую сілу ў вырашэньні будучае долі нашага народу.

*Манчэстар, Англія*
*5-га гэрвеня, 1988 году.*

***†Мітрапаліт Ізяслаў***
***Першагерарх Б.А.П.Ц.***

«*»



# СЛАВЯНЕ І ХРЫСЬЦІЯНСТВА

Пытаньне пашырэньня хрысьціянскай веры сярод Славянаў — вузлавая і бадай-што найважнейшая праблема ўсяе гісторыі славянства наагул. Замена старое веры продкаў на зусім новы і дыямэтральна розны ад традыцыйнага сьветапогляд спрычыніла глыбокія і трывалыя зьмены ў жыцьці-быцьці стара-Славянаў, ды давяло да радыкальных перасовак ў характары і кірунку гістарычнага працэсу, які звычайна і пачынаўся з прыняцьцем хрысьціянства і аснаваньнем пісьменсіва.

З усяго, што нам ведама пра хрысьціянства, адназначна вынікае, што трэба яго прызнаць за адну з галоўных рухаючых сілаў гістарычнага працэсу Эўропы ад пачатку 4-га, ды да пачатку 20-га веку нашае эры — гэта на працягу цэлых 16-ці вякоў! Ці сяньня захавала яно тое самае значэньне і вагу? На гэта цікавае пытаньне, вядома, прыходзіцца даць нэгатыўны адказ, які пакуль-што прымем без аргумэнтацыі.

Дзеля нашае тэмы агульную гісторыю хрысьціянства падзелім на два адметныя адрэзкі часу рознае даўжыні: *1. Пэрыяд прасьледу*, што цягнуўся ад 30-тых гадоў 1-га ст., цераз другое і трэцьцяе, ды завяршыўся ў 30-тыя гады 4-га ст. — гэта поўныя тры вякі. *2. Пэрыяд агульнага прызнаньня,*: ад 4-га ст. і па сяньняшні дзень, за выняткам часу ад лістапада месяца 1917 г., калі яно ізноў стала прасьледвацца савецкай уладай на тэрыторыі СССР, дзе і сяньня яшчэ ня мае поўнай свабоды дзеяньня.

1. Такі падзел гістарычнага шляху хрысьціянства на два так розныя даўжыні пэрыяды апраўдваецца тым, што яго пашырэньне на працягу першых трох вякоў ад сьмерці на Крыжы і ад Сьв.Уваскрасеньня Гасподняга ды да мамэнту спыненьня прасьледу праходзіла зусім іншым парадкам, чымся гэта было цягам 16-ці наступных вякоў усеагульнага прызнаньня. Прытым розьніца тут абсалютна прынцыповае натуры і вынікае яна з самога характару нашае рэлігіі: пасьля ізраільскай яна другая ў сьвеце аб'яўленая людзям Самім Богам; звыш таго, гэта адзіная ў сьвеце рэлігія, якой даў пачатак Бог асабіста сваей трагічнай ахвярай. Пачаткі хрысьціянства, гэта адна велічная эпапэя ў гісторыі чалавецтва. Вось тыя нязвыклыя якасьці нашага веравызнаньня, якія ўжо мала хто сабе навет прыблізна ўсьведамляе, мелі ад самага пачатку вялікую прыцягваючую сілу на людзкія душы: добрыя людцы былі проста ачараваныя Хрыстом, бязьмежнай дабрынёю Яго сэрца, Яго харызматычнай асобай, Яго бясспрыкладнай міласьцівасьцю да грэшніка і ўрэшце самой глыбінёю Яго захапляючай навукі, а асабліва тымі творанымі Ім цудамі, якія прамаўлялі да чалавека мацней за ўсё. Малое дзіва тады, што вера ў Яго адразу-ж пасьля Ўваскрасеньня пачала пашырацца і бушаваць,

што той агонь у прэрыі..., займаючы ўсё шырэйшыя і шырэйшыя прасторы Эўропы і Блізкага Ўсходу.

Але гэта была толькі адна рэакцыя на Хрыста і на Ягоную навуку, рэакцыя веруючай людзкой душы і сэрца. Яшчэ пры Ісусавым жыцьці і дзейнасьці тут на зямлі праявілася была і другая пра Яго думка і рэакцыя, рэакцыя цёмнага натоўпу і паганскай дзяржавы; была яна выключна варожая і то да такой ступені, што нечага падобнага сьвет дасюль ня чуў, ня бачыў... На ўсё тое, бязумоўна, былі свае ды не абыякія прычыны, якім варта прыглядзіцца крыху бліжэй. У да-хрысьціянскую пару зносіны між рознымі рэлігіямі адзначаліся дзьвюма тэндэнцыямі: па-першае, у сілу роўна спэкулятыўнай натуры ўсіх тых рэлігіяў, зносіны між імі вызначаліся адноснай талерантнасьцю — дагматычных канфліктаў між імі ня бывала. Чалавек заўсёды інстынктоўна вычуваў існаваньне круга сябе нябачных сілаў, якім прыпісваў аснаўное значэньне ў жыцьці, таму шукаў з імі бліжэйшага кантакту і ў гэных пошуках сваіх стараўся скарыстаць з дазнаньня іншых — на гэтым і базавалася прымітыўная талерантнасьць. Па-другое, старыя рэлігійныя традыцыі нарасталі вякамі ў групах спародненых этнічна, ці расава, а таму старыя рэлігійныя сыстэмы мелі этнічна-расавы характар і абмяжаванасьць. А таму, натуральным парадкам, дзе меў месца канфлікт палітычны, там вельмі часта выбухала і канфрантацыя рэлігійная, неталерантнасьць — прытым не дагматычнага, а эксклюзыўнага характару, калі адна рэлігія „праганяла” другую і займала яе тэрыторыю.

З прыходам Хрыста, які стварыў першую ў гэтай частцы сьвету звыш-этнічную і над-расавую рэлігійную сыстэму, усе апісаныя вышэй суадносіны ў корані зьмяніліся: паколькі аб’явіўся Сам Бог, хрысьціяне з радасьцю і адкрыта апавясьцілі канец усім пошукам багоў, ды ўсім дыскусіям і спэкуляцыям ув аснаўных пытаньнях рэлігіі: ёсьць Бог Адзіны,ў Тройцы Неразьдзельнай, Вечны і Ўсемагутны, ды ўсе маюць Яму пакланяцца і маліцца цераз Хрыста, Сына Божага, Збаўцу роду людзкога.

Тэалёгія простая і моцная. Яна вынесла ўсім іншым рэлігіям ня больш ня менш як сьмяротны прысуд (бязумоўна, у духоўнай роўніцы толькі...), бо гэтым хрысьціянства аб’явіла сябе адзінай праўдзівай рэлігіяй у сьвеце. Нечага такога людзі ня чулі з роду; шмат хто з іх прыняў гэту вялікую навіну з радасьцяй і з верай у Хрыста-Спаса, але вялікая бальшыня жахнулася і з абурэньнем паднялася на пратэст: „Хто даў права навічком-хрысьціянам так безаглядна парушаць падваліны існуючых парадкаў, ламаць адвечныя традыцыі грамадзтва, ганьбіць народныя сьвятасьці?” — крычэлі яны разьюшана. Адзіным аўтарытэтам, на які паклікаліся хрысьціяне, быў Ісус Хрыстос, Сын Божы, пасланы на зямлю Богам-Айцом дзеля паратаваньня роду людзкога. Нажаль натоўп Яго аўтарытэту не прызнаваў, а служкі культу і разгневаныя прадстаўнікі ўлады і слухаць пра Яго не хацелі. І пачаўся той нямінучы жорсткі прасьлед,



прадказаны Самім Хрыстом, крывавая расправа з гэтай дзіўнай новай рэлігіяй, паколькі аказалася зусім немагчымым угаварыць хрысьціянаў, каб адмовіліся ад Хрыста... І паплыла ракою нявінная мучаніцкая кроў, рэч да таго часу нячуваная ўва ўсёй гісторыі людзкой, каб каго дзе за рэлігію так каталі. Відавочна такім зьверствам сьмяротна загрожанае паганства спадзявалася раз і назаўсёды скончыць з небясьпекай таго хрысьціянства.

Толькі дарэмнымі аказаліся тыя спадзяваньні..., бо зусім нечакана для тагачаснага сьвету пад жудкім ціскам крывавага прасьледу хрысьціянства паказала сябе дакладна той запраўднай верай у Бога Жывога, якую і прапаведвалі ад самага пачатку сьв.Апосталы , а за імі і першыя Айцы Царквы. Бязьлітасна гнанае і зьнішчанае яно нічуць, на адзін крок і ў нічым не адступіла ад сваіх высокіх патрабаваньняў да душы і жыцьця людзкога. Хоць і загнанае ў катакомбы падземныя, яно не заламалася пад страшнымі ўдарамі зацятых прасьледнікаў. Якраз наадварот, яно прыняло той прасьлед як нешта зусім натуральнае, спадзяванае, а навет чаканае паводле слоў Госпада:„І будуць вас ненавідзець усе дзеля Імя Майго, а хто вытрывае даканца, той выратуецца”(Марк 13,13). І тады сталася так, што прасьлед гэны, замест каб канчаткова зьнішчыць тое здавалася-б слабенькае, нованароджанае і зусім арганізацыйна неакрэпшае хрысьціянства, на дзіва ўсім яго яшчэ ўзмацніў... І калі супроць усякае будзённае лёгікі, гнанае з усіх бакоў яно працягвала ахапляць штораз шырэйшыя кругі людзей простых і высакародных, цёмных і асьвечаных, тады ўрэшце зразумелі і самыя зацятыя недаверкі, а навет і палітыкі, што запраўды дзейнічае тут сіла-веліч надпрыродная, канчатковая, ды што прыйшоў час калі ўжо не скланіць чало перад ёю, дык прынамся суняцца ў бязглуздым ходаньні супроць яе, а навет спрабаваць выкарыстаць яе бясспрэчныя вартасьці і шырокую папулярнасьць у народзе дзеля важных палітычных мэтаў...

Вось у такім духу і выступіў рымскі імпэратар Канстантын І Вялікі, які ў 313 г. афіцыйна палажыў канец прасьледу хрысьціянства — неафіцыйна ён працягваўся прынамся яшчэ адно пакаленьне — і скарыстаў сымбалі хрысьціянскія ў параможных бітвах, якія забясьпечылі яму неаспрэчнае панаваньне над Рымскай Імпэрыяй. Удзячны, ён стаў вялікім дабрадзеем першапачатнае Царквы, памогшы ей пачаць запраўды бурны арганізацыйны рост, які на Ўсходзе меў эфэкт узмацненьня кансалідацыі цэнтралізаванай дзяржавы, а на Захадзе, які ўваходзіў тады ў пэрыяд вялікага заняпаду і ломкі стара-рымскіх парадкаў, адроджаная і ўзмоцненая Царква аказалася адзіным стрыжанём стабільнасьці, круга якога пачалі крышталізавацца новыя дзяржаўныя фармацыі; у выніку такой сытуацыі тут Царква ў вялікай меры становіцца партнэрам дзяржаўнае ўлады і з часам навет спрабуе заняць над тэй уладай дамінуючае становішча. Усё гэта скрывала ў сабе вялікую небясьпеку для духоўнае Місіі Царквы на зямлі, што і запраўды праявілася ў пазьнейшых эпохах.

2. Пачаткам гісторыі славянства лічыцца ў навуцы палавіна 6-га ст., калі памянулі Славян у сваіх творах два гісторыкі, Пракоп з Цэзарэі і Ярдан. Гэта трэба разумець так, што ў тую пару паявіўся адно сам назоў „Славяне", а не людзі- Славяне, бо ўжо Пракоп правільна спасьцярог, у якой невераrоднай колькасьці тыя Славяне і спароднеными з імі плямёны жылі на агромных прасторах Эўропы, заявіўшы з жахам, што яны маглі-б лёгка заваяваць увесь сьвет, калі-б ня тое, што былі насьмерць міжсобку рассвараныя...

Першыя сутыкненьні стара-Славянаў з хрысьціянствам гінуць у сумерках вякоў. А паколькі сама гісторыя пра-славянства так як і зусім не дасьледжана, цяжка сказаць нешта канкрэтнае. Самыя першыя гістарычна сьцьверджаныя кантакты знаходзім на Захадзе, дзе ў канцы 8-га ст. Шарлмань сілком ахрысьціў зьняможаных нямецкіх Саксаў; вось-жа аказваецца з імі прыняло хрост мноства жывучых там Вэндаў/Славянаў, якія ахвярна памагалі Саксам у іхнім цяжкім змаганьні за зьбераженьне веры продкаў. Цікава ведаць, што пазьней Немцы, відаць дзеля прынады і з увагі на тых за-лабскіх Вэндаў, што працівіліся хрысьціянізацыі, без разгалосу дазволілі былі тым найраней ахрышчаным перад-лабскім Вэндам (жылі яны ў г.зв.Hannoversches Wendland) правіць Багаслужбы на іхняй роднай мове! Апошняя такая служба адбылася ажно ў 1751 г., а стара-славянская мова датрывала там аж да канца 18-га веку. Пра ўсё гэта гісторыя даведалася толькі з пачаткам 20-га в. праз чэскага гісторыка Нідэрле (у кн.Slovanske starozitnosti, III,177, адн.6,8). Уканцы, усё-ж, Вэнды былі анямечаныя і гэта была першая вядомая нам страта славянства спрычыненая выкарыстаньнем хрысьціянства ў палітычных мэтах. Таксама, уся тая тактыка Шарлманя і яе вынікі, паколькі іх адобрыла Заходняя Царква, ёсьць першым прыкладам скарыстаньня хрысьціянамі музулманскай ідэі рашаючай ролі агня і мяча ў місійнай акцыі. Вялікая кампрамітацыя вялікай рэлігіі...

Гэта была адно пачатная балонка ў гісторыі Заходняга Славянства, поўнае трагізму і драмы, бясконцых цярпеньняў у нічым непавінных людзей з аднаго боку і варварскага зьдзеку над імі ў Імя Хрыста... з другога. Натура стара-Славянаў вызначалася дзьвюма моцнымі стыхіямі: з аднаго боку яны былі людзьмі глыбока рэлігійнымі і высокай маралі (гэта і адбілася ў назовах Wenden, Veneti, ад стсл.свентъ, сьвяты...), а з другога яны бясконца любілі і шанавалі сваю старадаўнюю пра-славянскую мову, адвечныя звычаі і традыцыі ды вераваньні, перададзеныя ім у спадчыне ад дзялоў-прадзедаў. Яны бязумоўна чулі, што хрысьціянства ўважаецца за адзіную праўдзівую рэлігію і, натуральным чынам, шукалі доказаў тае праўдзівасьці. Нажаль час быў ня той... Цудаў, якія былі, так сказаць, на парадку дня ў пэрыяд прасьледу першых хрысьціянаў, ніхто больш ужо не тварыў, ды па праўдзе ніхто ў іх ужо ня бачыў ніякае патрэбы, бо-ж хрысьціянства ўжо не прасьледвалася, а ішло рука ў руку са сьвецкай уладай; на яго плаціліся падаткі, а гэта азначала, што фактычна хрысьціянства мела ўладу над людзьмі... Таксама, праўдзівай мэтай тады нямецкага місіянерства стала не навяртаньне душ да Хрыста, а здабываньне зямлі і людзей дзеля анямечаньня і пашырэньня на іх кесарскае ўлады. Усё гэта Славяне бачылі і разумелі. Яны і пыталіся: калі ўжо новая рэлігія такая добрая, дык чаму заганяць людзей да яе бічам? А калі так трэба, значыць усё гэта адна вялікая хлусьня... Лёгіка беззаганная, таму ня дзіва, што іхні супраціў хрысьціянізацыі ўсьцяж узрастаў.



Пры ўсім тым злажыліся былі цікавыя гістарычныя абставіны, якія нажаль сучасная гістарыяграфія насьвятляе тэндэнцыйна і аднабакова. Галоўным фактарам сытуацыі была бясспрэчная сіла Заходняга Славянства, довадам чаго было навет ужо тое, што сам вялікі Шарлмань не пасьмеў расправіцца з Вэндамі так, як гэта ён зрабіў з Аварамі. Для Вэндаў ён устанавіў адно мяжу, г.зв.Limes Sorabicus (лац.limes, мяжа, граніца) па рэках Лабе і Салі, на захад ад якой Вэндам нельга было пасяляцца. Але мы ведаем, што безьліч Вэндаў жыло на захад ад Лабы, а на поўдні яны расьсяляліся аж за раку Майн, раней-жа жылі і над Рэйнам дый далей (хлусяць заходнія гісторыкі, што быццам тыя Вэнды былі там перасяленцамі,нядаўна прыбыўшымі з усходу, на што няма ніякіх довадаў, бо яны былі там ад вякоў аўтахтонным жыхарствам). У пару кансалідацыі Шарлманем франка-нямецкай імпэрыі перад усімі імі стала дылема: або прыняць новую хрысьціянскую веру, або пакінуць зямлю продкаў, бо на змаганьне з імпэрыяй у іх не ставала сіл. Шмат хто з іх наважыў шукаць шчасьця на ўсходзе і падаўся за Лабу — гэта за імі Шарлмань „зачыніў вароты", абвесьціўшы „Лімэс Сорабікус". А з тымі, што асталіся на зямлі прадзедаў сваіх, Заходняя Царква справілася незабавам, зрабіўшы з іх і іхніх нашчадкаў Немцаў больш зацятых за радавітых. Далейшая славянская страта.

Ня хочучы рызыкаваць вайны з Вэндамі, Немцы знайшлі да іх іншы, менш рызыкоўны шлях. Яны прынялі ўслугі Заходняе Царквы ў якасьці інфільтрацыйнае агентуры і замест войска паслалі за Лабу „місіянераў". І пачалася ціхая, але зацятая вайна паміж заходне-славянскім народам і Заходняй Царквою: Вэнды гадамі слухалі цярпліва нямецкага жаргону тых „місіянераў", нічога не разумеючы, аж пакуль ня лопнула тое іх вялікае цярпеньне... Тады як гураган узрываўся гнеў народны: вывалакалі тых Немцаў на вуліцу — але ўсіх, ад манаха да архіепіскапа... — і публічна іх прыкончвалі..., раўнялі з зямлёю ўсе сьвятыні, манастыры, ды вярталіся да прадзедаўскае веры і традыцыяў. Мір і цішыня зыходзілі на зямлю, але не на доўга, бо Немцы ўпарта дабіваліся свайго: калі справы ўлягаліся, а дрэннае мінулае забывалася, паяўляліся новыя „місіянеры" ў яшчэ большым ліку і ўся катавасія пачыналася нанава... Ведамыя нам прынамся сем такіх гвалтоўных выбухаў у краіне Вэндаў у гадох 929, 983, 1018, 1066, 1130, 1140-47 і 1187-1207 — першых пяць між Лабай і Водрай, а апошнія зацяжныя два ўжо далей на ўсход,

на Памор'і. Як бачым, ад пачатку 10-га і да канца 12-га веку амаль кажнае пакаленьне Заходніх Славянаў уздымалася на бой з „місія-нерамі". Але дарма, бо нямецкі націск усё ўзрастаў, а „місіянераў" усё прыбывала, у той час, калі лік Славянаў там усьцяж памяншаўся; ды не ад сілы аружжа нямецкага, а ад хрысьціянства, таго скароджанага, выкрыўленага Немцамі, яны ўцякалі на ўсход.

Такім парадкам, мала-памалу Палаб'е і ўсё прыбалтыцкае Памор'е вылюднялася. Вось гэтага простага працэсу ўсё яшчэ ня могуць зразумець гісторыкі Захаду, якія ўв адзін голас горда цьвердзяць, што гэта моц нямецкага аружжа і баяздольнасьць нямецкае арміі вынішчыла Вэндаў, а тых з іх, што зьбераглюся, асымілявала высокая нямецкая культура. Цікава адно, чаму яно ўзяло тым бравым Немцам цэлых 400 чадоў, каб зваяваць гэных слабых Вэндаў, ды далейшых 600 гадоў, каб цалкам асыміляваць іх рэшткі, сілай накінуўшы ім тэўтонскую мову і культуру? Ня дужа слаўная карціна, ды хто ведае, як яна-б яшчэ выглядала, каб ня тыя „місіянеры". А далей гісторыя сьведчыць, што калі ўрэшце тыя Немцы ды здабыліся на адвагу,і пры вялікай дапамозе рыцарства Англіі, Даніі і навет Палякоў (якіх было там, кажуць, аж 20,000!) рушылі ў 1147 г. крыжовым паходам на тых Вэндаў між Лабай і Водрай, там ужо не асталося было і трэцьцяе долі ліку папярэдняга жыхарства, якое тымняменш дало агрэсарам належны адпор Усё-ж гэны паход перапоўніў чару мучаніцтва заходне-славяншчыны: тыя з Вэндаў, што цьвёрда наважылі тры-мацца свайго да канца, забраўшы, што далося з маемасьці і жывёлы, падаліся вялікімі абозамі на ўсход — за Водру, на Памор'е, на Ўсходнюю Прусію — , а тыя, што асталіся, ужо не маглі даваць Немцам належнага адпору і з часам мусілі здацца на ласку і няласку „місіянераў" і каляністаў.

Так сумна скончылася вялікая эпапэя пакутніцтва далёка-заходняга славянства Эўропы і такі вынік яго належыць прыпісаць не нейкаму нямецкаму гераізму, ані перавазе іхняга аружжа (вялікая эпоха Вікінгаў, што ад Вэндаў узялі свой пачатак, сваё імя і інсьпірацыю, усё яшчэ чакае на па-вэндзкага дасьледчыка), ані нейкай асаблівай вышыні тэўтонскай культуры, а толькі і вылучна „місіянерскім" высілкам Заходняе Царквы. Ня з кім іншым, а толькі з ёю найбольш і „ваявалі" Вэнды за сваё існаваньне. Тут тая Царква і здала, так сказаць, свой жыцьцёвы экзамен, як паслушная прылада нямецкага шавінізму, утоесаміўшая пашырэньне хрысьціянства з пераможным паходам на ўсход „вышэйшай" нямецкай культуры, а заадно і межаў нямецкай дзяржавы — усё яно ідзе ў нямецкай гісторыі пад агульным загалоўкам "Drang nach Osten", што зусім адказвае праўдзе. У гэтым перамяшаньні элемэнтаў рэлігійнага, палітычнага і вайсковага гісторыкам лёгка даецца хвальшаваньне гісторыі заходняга славян-ства, а карэктывы ніхто не дамагаецца, бо праўда ёсьць жудкая і на ей ужо нікому не залежыць, навет самім Славянам, нажаль... Прытым усе імкнуцца за ўсякую цану прамаўчаць ганебную ролю Заходняе



Царквы. Вось галоўна па гэтай прычыне вялікая пакутніцкая драма заходняга славянства па сяньняшні дзень астаецца неапетай у славянскіх літаратурах і зусім невядомай шырокаму сьвету. А шкада, вельмі шкада, бо ў культурнай спадчыне раньніх вякоў Заходняй Эўропы стара-Славяне аставілі багацьце выяўных сьлядоў: памянём тут адно такія кур'ёзы, як стара-славянскія імёны ў сям'і самога вялікага Шарлманя(!), ці такія слаўныя імёны сярэднявечча, як Матільда (ад стсл маті-люда), ці Людовік (лац.Ludovicus,н.Ludwig, фр.Louis, ад стсл людъ-вількъ, зн.чалавек-воўк, ці воўкалак...) Асабліва апошняе імя было вельмі папулярным сярод фрапнцузкіх і нямецкіх каралёў і кесараў, пачынаючы ад наступніка Шарлманя (814 г.) і канчаючы на Луі XVIII (1824 г.!). Паўстае моцна цікавае пытаньне: калі ўжо тыя стара-Славяне былі такімі бяскультурнымі дзікунамі, скуль тады браліся гэтыя чыста славянскія імёны сярод пануючых дынастаў Заходняе Эўропы, ды як яны змаглі ўтрымацца там працягам тысячы гадоў!? Адказ зусім нескладаны: Славяне нятолькі доўгія вякі жылі на Захадзе, але і былі там у нязвыкла высокай пашане, што іхнія імёны пачалі даваць манархам і іншым выдатным асобам. Гэта і будзе тая пра-прычына, чаму Славянаў на Захадзе ўсе паціху ненавідзяць...: бо жывучы на эўрапэйскім Усходзе і Поўдні, яны неяк ухітрыліся аставіць на захадзе нясьціральныя сьляды, што хопіць адно паказаць на іх пальцам, каб людзі пачалі настойліва пытацца — хто, калі, чаму і пашто так схвальшаваў гісторыю?!

3. Як бачым, першая масавая сустрэча стара-славянства з хры-сьціянствам мела трагічны канец. Ды ня суджана было стара-Славянам уцячы ад хрысьціянства, ці хаця-б схавацца... Бо пакуль ішоў той крывавы наступ у Імя Хрыста на нашых продкаў над Лабай і Водрай, на поўдні Эўропы, а пазьней і на ўсходзе, Славяне пачалі прымаць хрост у новую веру зусім дабравольна. У чым-жа справа? Скуль такая розьніца? Гістарычныя крыніцы адназначнага адказу на гэта пытаньне нажаль не даюць. Пашукаем яго на сваю руку.

Звычайна ў пашырэньні хрысьціянства на славянскім Усходзе і Поўдні шмат заслугі прыпісваецца Бізантыі. Нажаль у сьвятле гісторыі такое меркаваньне апраўдваецца толькі часткова і то з вялікімі засьцярогамі. Аказваецца, што Бізантыйская Імпэрыя ўступіла ў цесныя зносіны са стара-Славянамі вельмі рана — ужо з пачаткам 6-га веку. Цераз увесь шосты век Славяне, агромныя полчышчы якіх неспадзявана паявіліся зьнекуль на паўночным беразе Дунаю, часта і моцна атакавалі адтуль Імпэрыю, а ў сёмым веку яны даслоўна залілі ўсю заходнюю частку Імпэрыі з Пэляпанэзкім паўвостравам улучна, ды частку Малое Азіі. Праўда, пазьней ім прышлося крыху паступіцца ўзад з тых зямель, але не на многа і яны абсталяваліся на Балканах на сталае жыцьцё! Так славянскае мора даслоўна затапіла Балканы, а Канстантынопаль быў заслабы, каб адкінуць іх назад за Дунай.

Тут цікава запытацца: а што на гэта канстантынопальскія місіянеры? А проста нічога... — не праявілі ніякай ініцыятывы. Славян ніхто не турбаваў і яны жылі сабе сваімі старымі традыцыямі і старой верай продкаў. А прычына такога стану рэчаў моцна цікавая: аказваецца, што дакладна як на Захадзе хрысьціянства пашыралася вылучна ў лацінскай сваей форме, так на Ўсходзе Эўропы хрысьціянізатарскую манаполію зацята не выпускалі з рук Грэкі: поўнавартасным хрысьціянінам мог стацца тут толькі той, хто геленізаваўся, г.зн.хтоператварыўся ў Грэка, хто свабодна валодаў грэцкай мовай і ўспрыняў грэцкую культуру. А паколькі пра геленізацыю славянскіх масаў на Балканах тады і думаць ня прыходзілася, праз доўгія сталецьці яны аставаліся пры паганстве. Праўда, тыя што пападалі ў гарады, асабліва ў сталіцу, хутка падпадалі геленізацыі і разам з грэцкай асьветай прымалі і хрост. Кажуць, што ўжо ў 6-ым в. былі кесары славянскага паходжаньня, а пазьней навет і патрыярхі, але гэта сутнасьці справы не мяняе.

Пару слоў пра арыянства. Як ведама, тая ерась бушавала на Балканах і ў самім Канстантынопалі ўжо ў 4-тым веку і была асуджана на першым (Нікея,325 г.) і другім (Канст. 381 г.) Экумэнічных Саборах. Ёсьць падставы думаць, што тая самаробная вера сваім дэмакратызмам (выбары сьвятароў і епіскапаў, прапаведваньне на роднай мове, ітп.) захапіла і нямала пра-Славянаў, што жылі там спрадвеку — а былі і такія! — ды ўтрымалася ў некаторых плямёнах аж да 10-га веку.

Грэкі не хацелі і слухаць пра прапаведваньне веры на якой іншай мове, чымся грэцкая, ці лацінская. Гэта, бязумоўна, балела той славянскай інтэлігенцыі, якая ўжо была прыняўшы хрост з геленістычнай культурай, але на народ свой не магла забыцца. Затым трэба думаць, што яна напэўна дамагалася ад Грэкаў дазволу на прапаведваньне новай веры сярод Славянаў на іхняй роднай мове, а тыя ей усьцяж адмаўлялі... і такі ненармальны стан трываў цягам многіх пакаленьняў. Далей, ізноў трэба дапускаць, што ня гледзячы на адмовы, славянская інтэлігенцыя не папускала рук, а рыхтавалася да таго дня, калі славянская пропаведзь і навет Багаслужба стануць рэальнасьцяй. Пацьверджаньне такога домыслу знаходзім у тым факце, што калі вяліка-мараўскі князь Расьціслаў у 862 г. папрасіў у Бізантыі славянскіх прапаведнікаў (ведаў, куды зьвярнуцца!), дык аказалася, што такія спэцыялістыя там былі і іх неадкладна да яго адправілі — можа навет крыху засьпешна... Выглядала, што Грэкі не бяз радасьці іх пазбываліся, бо сама Бізантыя ў славянскай абраднасьці, як ужо сказана, зусім ня была зацікаўленая. Відаць таму і ў хроніках сваіх Бізантыйцы не запісалі ні словам пра сьвятых братоў салунскіх, Кірыла і Мяфода, і іхнюю місію, гэтым да канца астаўшыся ўв апазыцыі да славянскага евангельскага слова і абраду. У гэтым сьвятле трэба разумець і той факт, што ў сваей цяжкой і небясьпечнай працы сьв.браты ня мелі ад Канстантынопаля найменшай падтрымкі — на іх там, відаць, з прыемнасьцю забыліся... У такіх абставінах малое дзіва, што яны, пакінутыя Бізантыяй і неахвочыя падпарадкавацца Рыму (які ўсё-ж прызнаў і адабрыў іх працу, хоць і не на доўга), узялі моцна незалежны курс і гэтым, нажаль, далі Немцам у рукі зброю супроць сябе, каб пасьля сьмерці Мяфода пад закідам ерасі зьнішчыць зародкі славянскай царкоўнасьці.



У міжчасе, як ведама, баўгарскі князь Барыс I ў 864-865 г. вырашыў прыняць хрост з Бізантыі і Грэкі шустра зарганізавалі яму грэкамоўную Царкву. Князю не даспадобы прышліся дамаганьні Грэкаў, каб ён і яго блізкія пачалі вывучаць грэцкую мову, без якой ім ня было доступу да хрысьціянскага Бога — так ён і адправіў тых Грэкаў дахаты; шле ён далей пасloў у Рым і адтуль сьпяшаць да яго прыткія місіянеры, каб наладзіць яму лацінска-моўную Царкву. Абураны князь праганяе і лаціньнікаў, ды вяртаецца да Грэкаў, відавочна з дамаганьнем славянскіх прапаведнікаў — чуў-жа пра вяліка-мараўскую місію салунскіх братоў. Ды заблізка ён жыў да парогу Бізантыі, для якой славянізацыя абраду лунала небясьпекай на яе ўласным гарызонце. Так і не давялося Барысу атрымаць тых прапаведнікаў і хрост Баўгараў ізноў зайшоў у тупік.

Справы Барыса I баўгарскага паправіліся зусім нечакана, калі пасьля сьмерці арх. Мяфода ў 885 г. разьбегліся ўва ўсе бакі яго вучні пад наглай атакай нямецкіх „братоў" у Хрысьце... Барыс даў прытулак і поле для плоднай працы ўсім тым, што знайшліся на ягонай тэрыторыі і гэтым нятолькі ўратаваў Баўгарыю ад геленізацыі, але і захаваў для дабра ўсяго славянства слаўную спадчыну салунскіх братоў ад канчатковага зьнішчэньня. Прытым не абышлося без рашучых, хоць і некрывавых, бітваў з Бізантыяй за тую спадчыну, якія скончыліся пастановай лякальнага сабору ў Прэславе, якой Баўгары канчаткова адмовіліся правіць Багаслужбы на грэцкай мове (893-4 г.). Так урэшце стара-славянская мова здабыла статус абрадавай мовы і гэтым актам славянства на паўдні ўстанавіла трывалы кантакт з хрысьціянствам, чаго зусім ня было ў Заходніх Славянаў, якія таму і мусілі ўступіць свой край „місіянерам" агня, мяча і лаціны...

4. Вось толькі тыя ўдачы Баўгараў з узнаўленьнем і замацаваньнем кірыла-мяфодаўскай стара-славянскай абраднасьці і зрабілі магчымым пашырэньне хрысьціянства на славянскім Усходзе. Бяз тых удачаў сама Бізантыя ніколі не змагла-б хрысьціянізаваць Усходніх Славянаў. Гэта пацьвярджае гісторыя: найранейшыя весткі пра пранікаьне хрысьціянскае веры на ўсход датычаць рэгіёну Чорнага Мора, дзе існавала рускае княства ўжо ў 8-ым веку. Там, аказваецца, існавала мітраполія Бізантыйскае Царквы, што называлася „Росіа"(ад гораду такога назову), якая датрывала да 12-га в.. Царква тая, бязумоўна, існавала на геленістычнай аснове і галоўнай яе астояй былі мясцовыя грэцкія купцы і каляністы, паколькі стара-Русаў

геленізаваць было немагчыма. Нажаль тое Тмутараканскае княства, практычна ад Кіева зусім незалежнае, з 10-га в. пачало хутка заняпадаць ад нападамі качэўнікаў і ўрэшце зусім занікла, а з ім і тая мітраполія.

Наступную па раннасьці вестку пра Русаў-хрысьціян знаходзім ув арабскага геаграфа Ібн-Хордадбэга, які пісаў каля 846 г.. Тыя Русы, паводле яго, мелі гандлёвыя зносіны з Бізантыяй і з краінамі Арабскага Ўсходу. Гэта маглі быць толькі Русы-арыяне, што захаваліся былі над Дунаем яшчэ з 5-6 вв; як такія, яны маглі мець свой альфабэт і свае абрадавыя кнігі, ды маліліся на сваей роднай мове. Вельмі магчыма, што гэта іхнія „руськіе пісмена" знайшоў у Крыме сьв.Кірыла ў 860 г.

Далей прыгадаем, што ўжо ў гадох 860-865, пасьля няўдалага паходу на Бізантыю, кіеўскі князь Аскольд са сваімі блізкімі прыняў быў хрост ад тых-жа Грэкаў, ды бязумоўна ўсё адбылося там на грэцкай мове. Як вынікае з далейшых падзеяў, новая вера не прынясла князю шчасьця ў жыцьці: калі на Кіеў напаў Алег, людзі перабеглі да яго, а Аскольд страціў пасад і жыцьцё — новая вера бяз добрае глебы так і занікла. Але за няцэлых сто год справы ізноў паправіліся; ужо ў 955, ці 957 г.; в.княгіня Вольга прыняла хрост, але ні Кіеў, ні Русь, ня былі яшчэ гатовыя пайсьці сьледам свае прагрэсыўнае княгіні, хоць і трэба дапускаць, што былі ўжо там тады і прапаведнікі і біблійныя кнігі на славянскай мове — гэта пацьвярджаецца як існаваньнем цэркваў у Кіеве таго часу, так і фактам прысутнасьці варагаў-хрысьціянаў пры падпісаньні догавару в.кн.Ігара з Бізантыяй у 945 г.. Усё яно было вынікам працы не каго іншага, як кірыла-мяфодаўскіх вучнаяў.

Адносна тых варагаў на месцы тут будзе выправіць адзін вялікі блуд, у які ўводзяць даверлівых людцаў усялякія хітруны — а гэта, што быццам яны, тыя варагі, былі ахрышчаныя на Захадзе, г.зн. у лацінскім абрадзе, хоць на гэта ніякага доваду няма, рэч проста ўзята з паветра. Прытым ясна, што той, хто пашырае такія выдумкі, на грош не разумее самога сэнсу гістарычнага працэсу таго часу. папершае, прыняўшы лацінства варагі тыя калі навет дапусьціць такую магчымасьць, не пасьмелі-б паявіцца на славянскім Усходзе ў 10-тым веку, бо там пагражала-б іхняму жыцьцю вялікая небясьпека — гэта-ж якраз была пара вострага змаганьня заходняга славянства супроць гвалту нямецкага „наварочваньня" іх у лацінскую веру. Ведаем пра бвух сьмельчакоў, што браліся прапаведваць лацінскую веру сярод палабскіх уцекачоў — Адальбэрта з Прагі Чэскае і Бруна з Квэрфурту. Абодва, нічога не асягнуўшы, загінулі ўва Ўсходняй Прусіі, або ля яе межаў (997 г. і 1009 г.). Падругое трэба ведаць, што са Скандынаваў толькі Датчане хрысьціліся раней за Кіеўскую Русь і то ўсяго на 23 гады; Нарвэгі прынялі хрост у гадох 1018-30, а швэды ажно ў пачатку 12-га веку! Як тады маглі ў 10-тым веку паяўляцца варагі-хрысьціяне на Русі, калі такіх зусім яшчэ ня было на Захадзе?



Як на яе ня глянуць, справа хрышчэньня Русі, а за ей і ўсяго ўсходняга славянства, прадстаўляецца нам у комплексным сьвятле. Першае пытаньне: чаму в.кн.Уладзімір наагул пайшоў на прыняцьце хрысьціянскае веры — ён, так адданы веры продкаў? Адкідаем усе басьні з ПВЛ пра тыя быццам ягоныя апытаньні паслоў магамэтанскіх, жыдоўскіх, рымскіх, а прымем зусім просты і лягічны пастулят, што на яго, зацятага „язычніка", быў вялікі націск якраз з боку хрысьціянаў, ня тых рымскіх, ані навет бізантыйскіх, бо такіх яшчэ на Русі тады ня было, а якраз сваіх гадунцоў кірыла-мяфодаўскае школы і традыцыі, што ўжо больш за 100 год рупліва працавала ў Баўгарыі і на Закарпацьці, над Віслай і Санам. Вось тыя славяна-моўныя гадунцы і былі ў тую пару адзінымі місіянерамі, якія маглі працаваць на Русі і яны, відаць, не драмалі — гэта яны, а ня Грэкі, ці Рымляне, першымі павярнулі Ўладзіміра да Хрыста. Вялікаму князю паглянуліся ў іх навуцы і практыцы дзьве рэчы: першае, гэта што прапаведваньне новае веры на ўсім зразумелай стара-славянскай мове праявіла ў сабе карысны патэнцыял дзеля запачаткаваньня працэсу кансалідацыі моцна парозьненай і структурна вельмі слабой кіеўскай дзяржавы. Гаспадар дзяржавы ня мог ігнараваць такой нагоды. Падругое, вялікі князь бачыў, што кірыла-мяфодаўцы, пацярпеўшы ад Рыму і не дабіўшыся ніякае падтрымкі ад Бізантыі, вялі так у Баўгарыі, як і на Закарпацьці сваю Царкву па лініі поўнай незалежнасьці ад абодвух патрыярхаў. Вядома, гэта пахла крыху ерасьсю і на далёкую мэту такой царкоўнай палітыкі нельга было-б трымацца, але Ўладзіміру ў той час яно бязумоўна імпанавала...(У вякох 10-11-тым існавала кірыла-мяфодаўская мітраполія ў Сандоміры, пра якую ў Канстантынопалі, як выглядае, нічога ня ведалі. Вось факт няпрызнаньня тае Царквы і памог Паляком яе крывава ліквідаваць). Уладзіміру моцна хацелася мець незалежную Царкву, бо добра ведаў, што за царкоўнай залежнасьцяй лезе ў хату і палітычная. Усё-ж яго ў пару асведамілі, што гэта магчыма толькі на ўзроўні абраду (а тут ужо дарогу працерабілі былі Баўгары), бо царкоўная герархія мусіла падпарадкавацца Бізантыі. Гэтым разам перамяшаньне рэлігіі з палітыкай апраўдваецца абароннай тактыкай Уладзіміра, які імкнуўся ўсьцерагчы свабоду кіеўскае дзяржавы ад пагрозы ей з боку тых, хто пад эгідай рэлігійнага адзінства практыкаваў палітычны экспансіянізм. Трэба сказаць, што тая манапольная і эксклюзыўная тэндэнцыя роўна моцна праявілася на Захадзе, як і на Ўсходзе.

Гэтыя разважаньні нашыя даюць магчымасьць разгадаць некаторыя дзіўныя і ўсё яшчэ няясныя бакі хросту Русі. Аднэй з цікавейшых між імі ёсьць той дасюль яшчэ цёмны факт , што пра гэны хрост у бізантыйскіх хроніках і іншых афіцыйных публікацыях таго часу не знаходзім ні слова... Гэта тымбольш зьдзіўляе, што такая дробная падзея, як хрост кн.Аскольда і яго блізкіх 120 гадоў раней, удастоілася была асобнага месца ўв „Акружным пасланьні" самога

патрыярха, слаўнага Фоція! Галоўная розьніца між дзьвюма падзеямі ў тым, што хрост Аскольда Грэкі праводзілі самі, яны кантралявалі ўсё ад самага пачатку і да канца. Затое хрышчэньне Русі адбылося з ініцыятывы і пад поўным кантролем самога в.кн.Уладзіміра. Ведаем таксама, што хоць хрысьцілі людзей прымусова, з загаду князя, усё-ж была праведзеная і немалая кампанія разьясьненьня новай веры жыхарству Кіева. Грэкі тут нічога памагчы не маглі, а ізноў азначае, што Уладзімір быў змушанны карыстацца ўслугамі або Баўгараў, калі такія былі рад рукою, або тых наскіх кірыла-мяфодаўцаў, а гэта ўжо Грэкам напэўна моцна не падабалася... Кінуць анафему на ўсю справу яны не пасьмелі, а толькі налажылі на яе сваё сымбалічнае вэта цераз вялікае маўчаньне...

Гісторыя дазваляе зрабіць выснаў, што ўсё-ж у Канстантынопалі даволі борзда зразумелі ўсю важнасьць хросту Русі для праваслаўнага Усходу і нятолькі пагадзіліся з фактам дакананым, але і хоць-няхоць аддалі за Уладзіміра (ў хрышчэньні Васіля) грэцкую царэўну... Вось такім парадкам хрост Русі ўрэшце здабыў сабе санкцыю афіцыйнага прызнаньня з боку імпэратара і патрыярха, а ўсходняе славянства ўступіла на доўгі шлях хрысьціянізацыі сваіх людзей і ўсяго жыцьця. Ведаем, што працэс той зацягнуўся на цэлыя вякі, бо праславянская рэлігійная традыцыя аказалася неспадзявана моцнай, а місійныя кадры ўсходняга хрысьціянства тут мацаваліся і ўзрасталі вельмі павольна. У выніку гэных сваеасаблівых абставінаў усходне-славянскае хрысьціянства не змагло расчысьціць сабе грунту даканца і таму ў многіх выпадках было змушанае будаваць новае рэлігійнае жыцьцё на старых фундамэнтах, што і даводзіла часта да зьявішча сынкрэтызму, або спалучэньня элемэнтаў старой веры з новай. Па прычыне вялікае складанасьці нашага гістарычнага працэсу, той сынкрэтызм аказаўся вельмі моцным якраз на беларускіх землях, на землях гістарычнай Літвы.

5. Астаецца нам яшчэ прыгледзіцца да гістрычнай ролі хрысьціянства на Эўрапэйскім Усходзе. Пры нагодзе прыпомнім сабе, што хрысьціянства прабілася на сусьветную арэну гісторыі і перамагло сваіх ворагаў дзякуючы галоўна адному фактару: як аб'яўленая Самім Богам рэлігія, яно аказалася вялікай духоўнай сілай, што паланіла ўсіх. Адсюль узяў свой пачатак і той вялікі аўтарытэт, якім Царква карысталася цягам усяго сярэдневякоўя. На славянскім Усходзе спачатна аўтарытэт Царквы па розных прычынах ня мог быць вялікім. Тымняменш ён стаў хутка павышацца з пашырэньнем і замацаваньнем „рускай веры" сьпярша ў сталіцах удзельных княстваў, а пазьней і па меншых гарадох і селішчах. Такім чынам Кіеў здабыў сабе першую сетку сталага кантакту з правінцыяй, чаго дасюль ня было і што ізноў спрыяла зараджэньню палітычнага цэнтралізму. Усё-ж, як ведама, цэнтралізм той ня змог замацавацца, ані разьвіцца і ўжо з палавіны 12-га ст. зусім занікае. Удзельны дынастычны партыкулярызм і лякальны патрыятызм аказаліся



**вядучымі сіламі эпохі. А гэта пацьвярджае, што да пары Татарскае навалы Праваслаўная Царква на славянскім Усходзе яшчэ ня была ўцягнута ў ніякую палітычную акцыю, яна была астаўлена самой сабе. Гэна была пара яе станаўленьня, росту і ўзмацненьня, ды яна слаўна закрасавала.**

**Пачаткам сумнай пары ў гісторыі ўсходне-славянскай Праваслаўнай Царквы трэба лічыць год 1300, калі мітрапаліт кіеўскі пакінуў зруйнаваны стары Кіеў і падаўся на поўнач, ды часова пасяліўся ў горадзе Уладзіміры, а ягоныя наступнікі былі заманеныя перанесьці сваю рэзыдэнцыю ў Маскву ў гадох 1326-28. Мала хто ведае, што ўжо пад тую пару амбітныя маскоўскія князі былі дабіўшыся ад Татараў важных прывілеяў: нятолькі вяліка-княжага тытулу, але і канцэсіі на зьбіраньне налогу для Арды з усіх паўночна-ўсходніх княстваў, якія з прыняцьцем „рускай" веры сталі звацца рускімі. Вось на тэй „жырнай" справе яны ўжо тады былі ладна разбагацеўшы і далёка пашырыўшы межы свайго княжаньня коштам усіх тых, на каго яны напускалі Татараў за зацягваньне з падаткамі. Вось такім парадкам яны хутка выйшлі на чало ўсіх рускіх княстваў, а іхнія апэтыты ўзрасталі з дня на дзень. У такой сытуацыі той мітрапаліт „Кіеўскі і ўсяе Русі" ім як з неба зваліўся... Ён-жа быў адзіным сымбалем таго містычнага „адзінства Русі" і, як такі, прад'яўляў прэтэнзіі да „ўсяе Русі". Вось чаму яны концам хацелі гасьціць яго ў сябе назаўсёды — бо ён нятолькі запэўніваў іхняй палітычнай авантуры вонкавы выгляд легітымнасьці, але і наперад санкцыянаваў усе іхнія будучыя рабункі і злачынствы ў імя „зьбіраньня рускіх зямель". Гэта кароткае расшыфраваньне пачаткаў маскоўскай гісторыі памагае правільна разумець натуру і асновы іхняе імпэрыі.**

**Так зарадзіўся расейскі імпэрыялізм, найгоршы ўва ўсёй гісторыі чалавецтва, а Руская Праваслаўная Царква стаяла ля яго калыскі і, няўпрыцям сабе самой, папала ў яго няволю..., салодкую няволю, з якой ёй зусім ня сьпех вызваляцца, бо ей там заўсёды было так хораша..., так бясьпечна, калісь царскай служкай, а цяпер бальшавіцкай... Ды мела яна там заўсёды і сяньня мае вялікую ролю, бо ў сваей дзейнасьці РПЦ заўсёды імкнулася, і ўсё яшчэ імкнецца, не да Царства Божага, а да царства Маскоўскага. Мала хто правільна разумеў гэту добра прыхаваную праўду, аж пакуль ня прыйшоў той 1917 год і не здарылася рэч нячуваная ў гісторыі хрысьціянства, што народ пайшоў разбураць цэрквы Хрыстовыя! Чаму? А вось так: вякі „служыцелі культа" быццам горача маліліся, білі нізкія паклоны перад крыжамі і іконамі, а ў сэрцах іхніх панаваў не Хрыстос-Чалавекалюбец, а Матушка-Расія, прыгнятальніца і зьнішчальніца народаў. Так яны і не агледзеліся, як ня стала Бога ў цэрквах іхніх — народ іх разбурыў, бо Бога там ужо ня было... (Думаюць некаторыя людзі, што ўсё гэта спрычыніла бальшавіцкая агітацыя, але тут толькі частковая праўда. Была-ж немалая рэвалюцыя і ў Францыі ў 18-тым веку, але цэркваў там ня бурылі, душпастыраў не забівалі. Колькі**

трэба было-б агітаваць, каб Немцы пачалі разбураць свае кірхі, ці Англічане, ці Палякі, ці Сэрбы? А што, усходнія Славяне менш пабожныя за каго? Якраз наадварот!) Бо найважнейшай рэчай у тых цэрквах былі не маленьні, а русыфікацыя. Ад пары трагедыі Вэндаў на Захадзе большае прафанацыі хрысьціянскае рэлігіі чымся гэта рабіла і робіць Масква і яе служкі сьвет ня бачыў. Бог Вялікі ўжо моцна пакараў расейскі народ і Расейскую Царкву за іхнія грахі супроць чалавецтва, ды нажаль Расейцы ўсё яшчэ ня могуць, ці ня хочуць, таго зразумець — відаць большае трэба кары і яна прыйдзе...

— о —

Падсумуем нашыя разважаньні. Як бачым, не падлягае найменшаму сумневу, што хрысьціянства сыграла ў жыцьці ўсіх славянскіх народаў першарадную гістарычную ролю. Нажаль у той пачэснай ролі ад самага пачатку выяўна выступілі моцна нэгатыўныя мамэнты, на што знаходзім дзьве галоўныя прычыны. Папершае, хрысьціянства прышло да Славянаў ня ў той першапачатнай крыштальна чыстай форме, блізкай да Хрыстовых запаветаў, ды ачышчанай і загартаванай жорсткім прасьледам першых вякоў, а ў форме ўжо „абжытай" вякамі дабрабыту і выгадаў, што прышлі з агульным прызнаньнем бясспрэчнай духоўнай сілы Хрыстовае спадчыны. Вось за тыя вякі буйнага росту хрысьціянства прыкметна сышло з тае вузкой духоўнай сьцежкі, наканаванай яму Вялікім Заснавальнікам, актыўна ўмяшаўшыся ў справы сьвецкія цэлых народаў і гэтым кампрамітуючы сваю вялікую Місію на зямлі.

Затым, падругое і важнейшае, з самых раньніх кантактаў з хрысьціянствам Славянам прышлося пераносіць вялікі зьдзек ад тых усіх, хто ўважаў за магчымае, а навет неабходнае, выкарыстаць Царкву Хрыстовую ў мэтах палітычнай маніпуляцыі, ды шавіністычнай экспансіі. Рана на Захадзе гэта давяло да агульнаславянскай трагедыі і спрычыніла вялікія зьмены ў гістарычным лёсе славянскіх народаў, у тым ліку і Беларускага, гістарычна Літоўскага. На поўдні гэта самая праява затармазіла хрысьціянізацыю Славянаў на шмат пакаленьняў, а на Ўсходзе яна лягла цяжкім каменем на гістарычнай долі асабліва Беларусаў і Украінцаў, ды і ўсіх іншых паняволеных Масквою народаў.

*П. Манькоўскі*





КАЛЯДЫ 1988/1989

Юбілейнае выданьне ў чэсьць 1000-годняга Юбілею Праваслаўнага Хрысьціянства ў Бедарусі 988-1988

## ЗЬМЕСТ

КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ
*Мітрапаліт Ізяслаў, Першагерарх Б.А.П.Ц.* .......... 1

АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ Ў ГОНАР 1000-ГОДНЯГА ЮБІЛЕЮ ПРАВАСЛАЎЯ Ў БЕЛАРУСІ .......... 3

ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЕ ХРОСТУ БЕЛАРУСІ Ў НЬЮ ЁРКУ .......... 5

СЬВЯТКАВАНЬНЕ 1000-ГОДНЯГА ЮБІЛЕЮ ХРЫСЬЦІЯНСТВА Ў БЕЛАРУСІ
*ў Манчэстар, Англіі* .......... 8
*ў Мэльбурне, Аўстраліі* .......... 10
*ў Адэляйдзе, Аўстраліі* .......... 13

МІТРАПАЛІТ ІЗЯСЛАЎ НА СЬВЯТКАВАНЬНЯХ ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ ХРЫШЧЭНЬНЯ РУСІ—УКРАІНЫ
*У Гюстон, Тэксас* .......... 13
*УСаўт Баўнд Бруку, Нью Джэрзі* .......... 14
*У Оўквіл і Гамілтоне, Онтарыё* .......... 15

ХРЫСЬЦІЯНСТВА І СЬВЯТЫЯ БЕЛАРУСІ
*Мітрапаліт Ізяслаў, Першагерарх Б.А.П.Ц.* .......... 16

СЛАВЯНЕ І ХРЫСЬЦІЯНСТВА
*П. Манькоўскі* .......... 23

ЗЬМЕСТ .......... 37